# КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ І КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Грамадскага аб’яднання “Міжнародная асацыяцыя беларусістаў”
і Грамадскай арганізацыі “Беларускае таварыства
дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі”

## ЗМЕСТ



• № 9 (57) • ВЕРАСЕНЬ • 2000 • МІНСК • БЕЛАРУСЬ •

Заснавальнікі:
**Грамадскае аб'яднанне "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў",
Грамадская арганізацыя "Беларускае таварыства дружбы
і культурнай сувязі з замежнымі краінамі"**



Адрас рэдакцыі:
**Рэспубліка Беларусь, 220050, Мінск,
вул. Рэвалюцыйная, 15, Камітэт ГА "МАБ"**

Тэлефон: **+375 (017) 220 76 04**
Факс: **+375 (017) 220 93 50**

E-mail:
**mab@lingvo.minsk.by**

Электронны варыянт у InterNet:
**http://www.lingvo.minsk.by**

*На першай старонцы вокладкі —*
**Скарына прыйшоў у Ліду, праз якую ён не мог не ехаць у Кракаў і Прагу.
Аўтар помніка Валяр'ян Янушкевіч. Фота В. Янцэвіча.**

Бюлетэнь выдаецца і высылаецца толькі тым сябрам ГА "МАБ", якія ўнеслі складкі.

Памер складак у месяц (з 2000 г.): у Беларусі — **500 рублёў**,
у краінах СНД — **2 USD**, Цэнтральнай Еўропы — **3 USD**,
Заходняй Еўропы, Азіі, на іншых кантынентах — **5 USD**.

Перыядычнасць выхаду — **1 нумар у месяц**.

Мовы выдання — беларуская, англійская і ў перспектыве — руская.

Паведамленні аб уплаце складак просім дасылаць на адрас рэдакцыі.

Складкі просім пераводзіць аднаму з заснавальнікаў бюлетэня —
**Камітэту ГА «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў».**

Банкаўскія рахункі:
**рублёвы і валютны —
3015000005287 у Мінскім абласным упраўленні
АСБ "Беларусбанк" г. Мінска, код 807.**



## ГІМН СКАРЫНАЎСКАГА БРАЦТВА*

Словы Максіма Багдановіча | Музыка Віктара Гуляева

Andante ♩ = 72

S, A — mp

1.Толь - кі ў сэр - цы тры - | вож - ным па - чу - ю
2.Мо - я - ны, Бе - ла - | русь, па - няс - лі - ся
3.Ма - ці род - на - я, | Ма - ці - Кра - і - на!

3 | 4

за кра - і - ну ра - | дзі - му - ю жах,-
за тва - і - мі дзяць - | мі уз - да - гон,
Не ус - ці - шыц - ца | гэ - та - кі боль...

5 (mf) | 6

ўспом - ню Вост - ру - ю | Бра - му свя - ту - ю
што за - бы - лі ця - | бе, ад - рак - лі - ся,
Ты пра - бач, ты пры - | мі свай - го сы - на,

7 | 8

і ва - я - каў на | гроз - ных ка - нях.
пра - да - лі і ад - | да - лі ў па - лон?
за Ця - бе я - му | ўмер - ці даз - воль!..

9 У бе - лай пе - пе цра - 10 по - сяц - ца ко - ні,
Бі - це ў сэр - цы іх, бі - це мя - ча - мі,
Усё ля - туць і ля - туць ты - я ко - ні,

11 рвуц - ца, мкнуц - ца і 12 цяж - ка хры - пяць...
нс да - вай - це чу - жын - ца - мі быць.
срэб - най збру - яй да - лё - ка гры - мяць...

13 *f* Ста - ра - даў - няй Лі - 14 тоў - скай Па - го - ні
Хай па - чу - юць, як сэр - ца на - ча - мі
*f* Ста - ра - даў - няй Лі - тоў - скай Па - го - ні

15 не раз - біць, не спы - 16 ніць, не стры - маць.
аб ра - дзі - май ста - рон - цы ба - ліць...
не раз - біць, не спы - ніць, не стры - маць.

17 **Fine** *f* Нс - стры - маць!..

2

* Скарынаўскае брацтва ўжо тры гады дзейнічае пры Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны.

*Мікалай Палкаўнічэнка* (Гомель)

# ФРАНЦЫСК СКАРЫНА І АЛЬБРЭХТ ДЗЮРЭР

Зварот аўтара да пытання пра магчымыя асабістыя стасункі беларускага першадрукара і карыфея нямецкага Адраджэння невыпадковы. Гэта лагічны вынік амаль трохгадовага даследавання іканалогіі ілюстрацый і ініцыялаў выданняў Ф. Скарыны. Аўтар у значнай ступені рэканструяваў старажытныя прыёмы стварэння выяўленчых ідэаграм. Яны грунтуюцца на сімволіцы Кабалы і ўвогуле культуры сярэдніх вякоў. Як вядома, гэта культура была пераважна філалагічнай. Для яе характэрна высокая культура тэкста і слова, увага да яго літары ў пошуку сэнсу.

**Мікалай Палкаўнічэнка** — выкладчык сярэдняй школы № 19 г. Гомеля. Займаецца даследаваннем гравюр з выданняў Ф. Скарыны ў еўрапейскім кантэксце. У аснове артыкула — даклад на III Міжнародным кангрэсе беларусістаў.

Спачатку аўтар звярнуўся да "майстэрскіх" гравюр А. Дзюрэра, каб праверыць аб'ектыўнасць рэканструяванай ім "мовы" на выяўленчым матэрыяле, вядомым складанасцю сваёй іканалогіі. Гэта гравюры "Меланхолія", "Св. Іеранім" і пазней дыптых "Чатыры апосталы". Вынікі іх даследавання пераўзышлі сціплыя чаканні аўтара. Дапаможная частка даследавання набыла самастойную навуковую каштоўнасць. Пацвердзілася, што ў свой час бліжэй за ўсіх да разгадкі тайны "Меланхоліі" быў славуты Эрвін Паноўскі. Высветлілася, што іканалогія гравюры "Св. Іеранім" значна складаней, чым лічыцца. Нямецкі мастак, як і беларускі першадрукар, быў знаёмы з сімволікай Кабалы. Яны карысталіся аднолькавымі сродкамі стварэння выяўленчых ідэаграм. Высветлілася, што сэнс і змест ідэаграм партрэта Скарыны і гравюр Дзюрэра вельмі падобныя. Іх адрозненне — у аптымізме Скарыны і песімізме Дзюрэра. Беларускі першадрукар адлюстроўвае сябе ў выглядзе Еноха, нямецкі мастак — у выглядзе Фаўста (крылы постаці Меланхоліі — намёк на мастака праз яго вядомы герб).

Партрэт Скарыны, "Св. Іеранім" і "Меланхолія", быццам фрагменты спісаў страчанага тэкста, узаемадапаўнялі і ўдакладнялі пры даследаванні сэнс і змест асноўных ідэаграм. Напрыклад, кабалістычны "гарызонт вечнасці", які лёгка пабудаваць з дапамогай перспектывы інтэр'ера "Св. Іераніма", знаходзіцца на ўзроўні вуснаў святога. Ён стварае ідэаграму вечнасці Слова, якое перакладае святы. Дарэчы, ёсць падставы лічыць назву гравюры памылковай. Магчыма, што гравюра павінна называцца "Св. Аўгусцін". На карысць гэтага сведчыць выява гарбуза пад столлю, якая сімвалізуе Нябесны горад. У вышэйшай ступені верагодна, што гравюра прысвечана памяці Гартмана Шэдэля і з'яўляецца яго адлюстраваннем. На партрэце Скарыны "гарызонт вечнасці", які лічыцца вечным цяперашнім паміж мінулым і будучыняй, адпавядае вузкай частцы гадзінніка паміж яго ніжняй і верхняй камерамі. Ён праходзіць паміж выявамі капітэляў калонак Еноха ў выглядзе яек і выявамі львоў. Такім чынам, ідэаграма львоў-вучоных і іх

генезісу ўзбагачаецца. Гэта вечны генезіс вучоных, звяном у ланцугу якіх лічыў сябе Скарына. Выява класічнага кабалістычнага "гарызонту вечнасці" (круг, падзелены гарызантальнай лініяй на дзве роўныя часткі) ёсць на барабане, адвображаным на адным з ініцыялаў Ф. Скарыны. У "Меланхоліі" выява вясёлкі з гарызонтам сімвалізуе будучыню (эсхаталагічныя перспектывы чалавецтва паводле св. Іаана Багаслова).

Правільнае "прачытанне" аўтарам ідэаграмы выяў ільвоў на партрэце Скарыны дазволіла зразумець памылковасць погляду даследчыкаў творчасці Дзюрэра на выяву львёнка ("Св. Іеранім") як выяву сабакі, якой у кантэксце іканаграфіі сюжэта няма месца. На самой справе выявы розных узроставых генерацый ільва ствараюць ужо знаёмую нам ідэаграму генезісу вучоных.

Беларускі асветнік і нямецкі мастак неаднаразова выкарыстоўвалі сімволіку Брамы святла — увахода ў Малкут (у кабалістаў — Царства ведаў, Царква, гісторыя, у хрысціянстве — Царства Нябеснае). У Скарыны — гэта выявы калон, дубовай гірлянды і трохкутніка — знака "вагі". У Дзюрэра — выява чэрапа (ням. *Schödel*, дэль — кабалістычны Бог Брамы святла) на фоне вялікага акна ("Св. Іеранім") і "магічны квадрат" пад дзвярным званочкам ("Меланхолія"). Выява месяца на сігнеце Скарыны — Малкут, кабалістычнае Царства ведаў. Адначасова гэта ў хрысціянскім варыянце Царства Нябеснае (прыгадаем шматлікія карціны з адлюстраваннем узнясення Марыі, дзе яна стаіць на выяве месяца). Выява тачыльнага дыска (не жорнаў, як лічыцца) у "Меланхоліі" часткова задрапіравана. На ім паказана шчарбіна. Гэта метафарычны месяц — Царства ведаў. Лацінскае *disco* — 'навучыцца чаму-небудзь'. Маленькі пута сядзіць на тачыльным дыску і рашае нейкую задачу. Італьянскае *putto* праз лацінскае *puto* стварае ідэаграму 'лічыць і думаць'. Выява вагаў — сімвал галоўных сефіротаў Кабалы — кароны, якая ўраўнаважвае Мудрасць і Розум. Левая іх чашка (біна) — розум, развіццё — датыкаецца да галавы пута. Аўтар павінен быць такім падрабязным для пераканаўчасці і таму, што гэтая аргументацыя датычыцца сімволікі сігнета Скарыны, асноўная ідэаграма якога — дактрына і дысцыпліна.

Ужо знаёмая нам ідэаграма Царства Нябеснага ("Св. Іеранім") у выглядзе адлюстравання гарбуза ствараецца вельмі проста. Гарбуз (ням. *Kürbis*) праз лацінскае *urbis* — горад. Дарэчы, з "лішняй" літары *К* у лацінскай пачынаецца слова "неба". Такім чынам, ствараецца выяўленчая ідэаграма Нябеснага Іерусаліма. Як і гравюры Дзюрэра, партрэт Скарыны ствараўся для адукаваных еўрапейскіх інтэлектуалаў. Выявы кошыкаў, праз лац. *Corbis – orbis*, магчыма, сімвалізуюць сусвет і круг. Круг — сімвал вечнасці. Такім чынам, гаворка можа ісці аб вечным працэсе перадачы ведаў. Выявы збаноў на падушцы — сімвалы розных жыццёвых шляхоў. Гэта звычайны грахоўны шлях (збан, магчыма, пусты, магчыма, з малаком) і ўзнёслы шлях мудраца (другі збан, магчыма, з мёдам). Збан праз нямецкія словы *Krug* і *Klug* — мудрэц. Праз лацінскія *cadus – cado – catus* гэта ідэаграмы падзення, духоўнай смерці і асцярожнасці, умеласці, майстэрства. Выява жалуда з гірлянды датыкаецца да берэта Скарыны і

праз ням. *Eichel* і кабалістычнае *Хель* — Бог міласэрнасці — сцвярджае ідэю міласэрнасці.

Вельмі адметна выкарыстанне Скарынай і Дзюрэрам своеасаблівага сюррэалізму (дваістасці і нават траістасці асобных выяў). На партрэце Скарыны выява падушак злева ператвараецца ў выяву аблокаў справа. Траіцца адна з выяў яго сігнета. Гэта адначасова сонца, леў і адлюстраванне самога першадрукара. Выява жывёлы ў “Меланхоліі” нагадвае сабаку і авечку. Для майстра, які стварыў славуты малюнак труса, гэта невыпадкова. Сабака — сімвал адданасці. Праз ігру лацінскіх слоў *canis* і *canus* (‘сівы’) і ігру нямецкіх слоў *сівы* і *мудры* ўказвае на выяву старога на каменным блоку. Такім чынам, ствараецца ідэаграма філасофскага каменя (у нямецкай мове — каменя мудрасці). Авечка — спрадвечны сімвал ахвяры. Гэта ахвяра мастака на карысць творчасці. Авечка (ням. *Schaf – Schaffen* ) — творчасць.



Трэба адзначыць, што нягледзячы на сістэматычныя намаганні ў пошуку твораў выяўленчага мастацтва з такімі ж складанымі ідэаграмамі і выкарыстаннем “мовы” Скарыны і Дзюрэра, аўтар адшукаў толькі некалькі выпадкаў выкарыстання фрагментаў гэтай “мовы”. Выключэннем з’яўляюцца толькі карціны славутага Дж. Арчымбольда. Сляды “мовы” Скарыны і Дзюрэра прысутнічаюць, напрыклад, на славутым партрэце пасланнікаў Ганса Гольбейна Малодшага (лонданская Нацыянальная галерэя). Гэта дэфармаваная выява чэрапа на інкруставанай падлозе. Чэрап — *Schädel* — кабалістычны сімвал Брамы святла. Адна са старых назваў гэтай карціны — “Вучоныя”. На візантыйскай мініяцюры сярэдзіны XIV ст. (Масква. Гістарычны музей, грэч. 407) з выявай евангеліста Іаана паказаны стол у выглядзе верхняй паловы круга, на якім ляжыць цыркуль. Гэта знаёмая нам частка кабалістычнага “гарызонту вечнасці” — сімвал будучыні (эсхаталагічных перспектыў).

Аўтар павінен падкрэсліць, што, акрамя карцін Дж. Арчымбольда, нічога значнага, падобнага на партрэт беларускага першадрукара і гравюры карыфея нямецкага Адраджэння адшукаць не ўдалося. Гэта ўжо само па сабе красамоўна і дазваляе лічыць стасункі карыфеяў беларускай і нямецкай культур у вышэйшай ступені верагоднымі.

Даследаванне па атрыбуцыі выяваў гістарычных асоб у выданнях Скарыны прымусіла аўтара праверыць методыку атрыбуцыйнай працы на матэрыяле дыптыха Дзюрэра “Чатыры апосталы”. Да вядомай атрыбуцыі св. Іаана П. Ме-

ланхтана аўтар далучыў атрыбуцыі выяваў астатніх святых. Гэта Іеранім *Хольц*шуер у выглядзе *халер*ыка св. Марка. Брат мастака *Ганс* у выглядзе *санг*вініка св. Паўла. І, па ўсёй верагоднасці, Гартман Шэдэль у выглядзе св. Пятра. Прыёмы, з дапамогай якіх Скарына і Дзюрэр набліжаюць біблейскіх персанажаў да рэальна існаваўшых асоб, таксама аднолькавыя. Аўтар ужо падкрэсліваў філалагічны характар культуры і адукацыі тых далёкіх часоў. Сучаснаму чалавеку цяжка ўявіць тып мыслення людзей таго часу. Высветлілася памылковасць ці, верагодней, наўмысны трук аднаго з першых даследчыкаў творчасці Дзюрэра, які, магчыма, ведаў сувязь паміж тэмпераментамі і імёнамі адлюстраваных асоб (*меланх*олік – *Меланх*тан) і, жадаючы захаваць манаполію на гэтае веданне, наўмысна схлусіў, сцвярджаючы сангвіністычны тэмперамент адлюстравання св. Іаана – Меланхтана. Гэтая памылка сустракаецца і ў выданнях сучасных аўтараў. Між тым, гравіраваны партрэт Меланхтана, зроблены Дзюрэрам у год стварэння “Апосталаў”, красамоўна сведчыць аб энергіі Меланхтана і аб тым, што мастак ператварыў яго на карціне “Апосталы” ў тыповага меланхоліка, каб стварыць сувязь тэмпераменту і імя дзеяча Рэфармацыі. Сярод сучаснікаў Скарыны, паказаных на гравюры тытульнага ліста кнігі “Царстваў” — сам *Юлій* II у выглядзе Сам*уіла*, а таксама Лю*довік* (Ягелон) у выглядзе *Даві*да. На гравюры з адлюстраваннем Ісуса Нав*ін*а — бясспрэчная выява князя Гедым*ін*а. Адлюстраванне *Самсон*а — выява Сігізмунда II. Італьянскі эквівалент гэтага імя — *С*іджі*смон*да.

Асобныя ілюстрацыі выданняў Скарыны надрукаваны з дошак дрэварытаў славутай “Сусветнай хронікі” Г. Шэдэля. Аб гэтым пісаў вядомы беларускі даследчык выяўленчага матэрыялу выданняў першадрукара В. Шматаў. Гэта таксама важкі аргумент на карысць гіпотэзы аб знаёмстве Скарыны і Дзюрэра.

На пражскай карціне мастака “Свята ружанцовае” (Венецыя, 1506) ёсць выява невядомага доктара ў мантыі, які вельмі нагадвае беларускага першадрукара. Традыцыйны пункт гледжання даследчыкаў на выявы асоб справа ад постаці Максімільяна I як прадстаўнікоў нямецкай суполкі ў Венецыі (у асноўным багатых гандляроў) не вытрымлівае крытыкі. Патрабаванням фундатарскага карпаратыўнага партрэта адпавядаюць толькі выявы доктара і невядомага рыцара. Пагадзіцца з тым, што яны могуць прадстаўляць суполку гандляроў, немагчыма. З пункту гледжання аўтара, доктар некалькі нагадвае С. Брандта. Але бясспрэчна вялікае яго падабенства і з беларускім першадрукаром.

На ілюстрацыі з тытульнага ліста кнігі “Песня песняў” у выглядзе алегарычнай постаці Хрыстовай нявесты — Царквы — адлюстраваны, магчыма, сам Скарына. У выглядзе карануючага яе Хрыста змешчана выява Дзюрэра, вельмі падобная на адлюстраванне мастака з прыгаданай намі пражскай карціны. Выява першадрукара перад Хрыстом – Дзюрэрам сведчыць, магчыма, аб нечым большым, чым толькі вялікая павага Скарыны да славутага нямецкага мастака. Бясспрэчна, што ўзорам для дрэварытаў выданняў беларускага першадрукара з’яўляліся гравюры Дзюрэра. Нельга выключыць і непасрэдную вучобу Скарыны ў нямецкага майстра.

У. Агіевіч, заслугі якога па прыцягненню ўвагі да складанасці іканалогіі партрэта першадрукара бясспрэчныя, прапанаваў дзве слушныя гіпотэзы. Аўтар цалкам падзяляе яго пункт гледжання наконт значна ранейшай даты нараджэння Скарыны. Другая яго гіпотэза мае дачыненне да тэмы гэтага артыкула. Сутнасць яе — у прыналежнасці беларускага першадрукара да нейкай протамасонскай карпарацыі кніжнікаў. Аргументацыя Агіевіча не вельмі пераканаўчая, аднак па сутнасці пытання ён мае рацыю. Справа ў тым, што ў тыя часы тэхніка друкавання ахоўвалася ад пабочных асоб амаль таксама, як сакрэт вырабу пораху, паперы і значна пазней — фарфору. Скарына, безумоўна, належаў да вельмі вузкага кола "касмапалітычных" еўрапейскіх інтэлектуалаў. Блізкасць Дзюрэра да гэтых колаў, а таксама да прафесійнай карпарацыі выдаўцоў і друкароў бясспрэчная. Адзін з іх прадстаўнікоў, вядомы Кобергер, з'яўляўся суседам і хросным бацькам Альбрэхта. Агіевіч піша аб протамасонстве Скарыны. Аўтары класічных трактатаў аб Кабале сцвярджаюць, што масоны заўсёды добра ведалі яе сімволіку. Сюжэт разгледжанай намі пражскай карціны Дзюрэра "Свята ружанцовае", як і паданне аб прыгаданым намі Еноху, вельмі папулярны ў масонскім асяроддзі. На гэтай карціне Дзюрэр трымае паперу са сваёй сігнатурай вельмі нязручна. Справа ў тым, што рукі адначасова паказваюць адно са старажытных масонскіх прывітанняў. На гэтай жа карціне мужчынская постаць у чорным адзенні справа ад доктара трымае прадмет, выява якога дваіцца, калі не траіцца. Гэта, магчыма, кніга з незвычайнай вокладкай ці, верагодна, аспідная дошка, чорны колер якой зліваецца з чорнай вопраткай, а драўляная рамка ўспрымаецца прамавугольнікам — вядомай эмблемай масонаў. Цікава, што на прыгаданай намі карціне рукі Дзюрэра, постаць якога адлюстравана ў значнай глыбіні кампазіцыі карціны, быццам бы датыкаюцца да капелюша доктара.

Указаныя факты дазваляюць лічыць асабістыя кантакты карыфеяў беларускай і нямецкай культур у вышэйшай ступені верагоднымі. Аўтар упэўнены, што вынікі далейшага паралельнага даследавання іканалогіі ілюстрацый выданняў беларускага першадрукара і гравюр выдатнага майстра нямецкага Адраджэння звяжуць іх імёны ў гісторыі мастацтвазнаўства, а таксама ў гісторыі культурных кантактаў беларускага і нямецкага народаў.



## З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

### ПРА ПОЛЬСКІЯ І БЕЛАРУСКІЯ ГАРАДЫ

Кафедра рэгіянальных даследаванняў Падляшскай акадэміі ў Седльцах дзякуе за надасланыя публікацыі Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

Мне прыемна паведаміць, што нашай кафедрай рыхтуецца навуковая канферэнцыя "Малыя гарады ва ўмовах выклікаў глабальга гаспадарання". Адбудзецца яна ў Седльцах 23–25 кастрычніка 2000 г. Пра свой удзел у канферэнцыі паведамілі ўжо 16 дакладчыкаў з Беларусі, галоўным чынам з Брэста.

***Марыя Цехацінська**, праф., загадчык кафедры*

*Вальдэмар Дэлюга* (Варшава)

# ФРАНЦЫСК СКАРЫНА І ГАБРЭЙСКІЯ ДРУКАРЫ Ў ПРАЗЕ

Сярод пражскіх друкароў Францыск Скарына займае асаблівае месца. Ён шмат разоў карыстаўся абсталяваннем іншых друкарняў, аб чым успаміналі многія даследчыкі. У яго выданнях, якія з'явіліся ў Празе і Вільні, ёсць дрэварыты, адбітыя з чужых дошак. Прыкладам служыць ілюстрацыя з выдання "Псалтыра" 1517 г., якая прадстаўляе генеалагічнае дрэва Хрыста (гл. рэпрадукцыю на наступнай старонцы); гравюра скампанавана паводле іканаграфічнай схемы, апрацаванай Міхалам Вольгемутам. Яна была адціснута з дошкі, якая ўпершыню з'явілася ў "Новым Запавеце", выдадзеным на чэшскай мове ў Празе ў 1497 г. [1] Чарговай экземпліфікацыяй запазычання служаць два дрэварыты М. Вольгемута, змешчаныя ў "Малой падарожнай кніжцы", выдадзенай у 1522 г. у Вільні. Абодва творы спачатку знаходзіліся ў "Сусветнай хроніцы" Гартмана Шэдэля, апублікаванай у 1493 г. у друкарні Антонія Кобергера ў Нюрнбергу. А на тытульнай старонцы віленскага выдання знаходзім дрэварыт, на якім прадстаўлены фрагмент генеалагічнага дрэва продкаў Хрыста. Ілюстрацыя з'явілася яшчэ раней у календары, выдадзеным Вольфгангам Хуберсам у 1513 г., і мае свае аналагі ў калекцыі гравюр, якая захоўваецца ў бібліятэцы Вроцлаўскага універсітэта[2]. Ініцыялы, змешчаныя ў "Малой падарожнай кніжцы", працягваюць традыцыі лацінскіх узораў. На с. 183 змешчаны ініцыял "S", узор якога быў запазычаны з вялікага алфавіта, апрацаванага Ізраэлем ван Мекенэмам[3]. Упершыню ініцыял ананімнага майстра з'явіўся ў нюрнбергскіх інкунабульных выданнях. Дошка выкарыстоўвалася Петэрам Вагнерам у 1483–1500 гг. [4] Затым яна ўжывалася ў выданнях Морыца Брандыса[5], які працаваў у Лейпцыгу і Магдэбургу ў 1488–1500 гг. Шматлікія ініцыялы эпохі імітуюць прататыпы Мекенэма. Мы знаходзім іх у інкунабулах Марціна Ландсберга[6], які актыўна працаваў у Лейпцыгу ў 1492–1500 гг. Вядомы таксама копіі, выкананыя ананімным іспанскім гравёрам, творы якога змяшчаліся ў інкунабульных выданнях у Бургасе[7].

**Вальдэмар Дэлюга** — доктар мастацтвазнаўства, прафесар. Супрацоўнік Нацыянальнага музея ў Варшаве. Артыкул напісаны ў рамках навуковай праграмы, якая фінансавалася фондам Research Support Scheme of the Open Society Support Fundation і прадстаўлены ў выглядзе даклада на III Міжнародным кангрэсе беларусістаў.

Падобнага тыпу элементы абсталявання друкарняў сведчаць аб трываласці матэрыялу, а таксама аб вялікай матэрыяльнай вартасці дрэварытных дошак.

Выкарыстанне элементаў нямецкіх друкарняў у славянскіх не з'яўляецца нечым выключным. Варта нагадаць, што ў пражскіх габрэйскіх друкарнях выконваліся гравюры, адбітыя не на ўласных дошках. Так было ў выпадку з выданнямі Герсона бен Саламо Кохена. На тытульнай старонцы другога выдання "Пяцікніжжа" 1530 г. была адбіта рамка з дошкі, якая ўжо выкарыстоўвалася пры друку чэшскай Біблії 1529 г. [8] Яна з'явілася зноў на старонцы

Бібліі, выдадзенай на чэшскай мове ў 1537 г., гэта значыць вярнулася да ранейшых гаспадароў [9]. Другая рамка, якую знаходзім ў экземпляры “Хагады” з калекцыі Бадлеянскай бібліятэкі ў Оксфардзе, таксама паходзіць з чэшскіх выданняў. Трэцяя рамка тытульнай старонкі 3 кнігі Майсея таксама належала, як раней, так і пазней, чэшскім выдаўцам. Яна складаецца з пяці элементаў рознай канфігурацыі ў выданнях чэшскіх Біблій у 1537 і 1561 гг.

Пэўная група пражскіх габрэйскіх і праваслаўных ілюстрацый мае агульныя мастацкія элементы, значыць, яны былі выкананы на адным графічным варштаце. Даследчыкі ўжо займаліся дадзенай праблемай, але толькі ў кантэксце геральдычных элементаў, якія выступаюць у выданнях беларускага першадрукара [10]. Спосаб афармлення групы гравюр з родавым гербам (у тым ліку тытульнай старонкі) да пражскіх выданняў Скарыны мае свае аналогіі ў тагачасных габрэйскіх выданнях [11]. Акрамя гэтага, варта адказаць на пытанне: якія ж мастацкія сувязі аб’ядноўвалі Скарыну з пражскім габрэйскім асяроддзем, а таксама, якую ролю адыгрывалі ў дадзеным выпадку чэшскія друкарні [12]? У 1518 г. Кохен выдаў “Пяцікніжжа”. На тытульнай старонцы кнігі быў змешчаны герб, які, верагодна, належаў выдаўцу [13]. Герб, які падтрымліваецца двума анёламі, быў пазначаны манаграмай “М”. Такіх жа анёлаў мы знойдзем на старонцы “Кнігі Зыходу” Скарыны [14]. Магчыма, аўтар манаграмы “М” і ёсць той самы гравёр, які нанёс на малюнак з партрэтам Скарыны ініцыялы “MZ”. Але нельга пераканаўча пацвердзіць гэтую гіпотэзу. Яе, хутчэй, трэба звязваць з варштатам майстра “HWF”, які падпісваў дрэварыт з выявай св. Вацлава ў “Psalterium Olomucense” (Брно, 1499). Сярод аналогій назавём дрэварыт, змешчаны ў чэшскім выданні “Minuci” 1521 г. [15]



Пяць гравюр і тытульная старонка да Бібліі Скарыны пазначаны двума гмеркамі (штэмпелямі родавых гербаў. — *Пер.*). Трэба меркаваць, што іх аўтарам з’яўляецца адзін і той жа аўтар. Гэта, напэўна, з яго варштата паходзіла дрэварытная дошка, на якой была адбіта тытульная старонка пражскага “Machzor” 1525 г. [16] Чарговай ілюстрацыяй, якая належыць да той жа самай групы, служыць рамка на тытульнай старонцы пражскага выдання “Во установене служебников” 1523 г. На ёй мы заўважаем падобныя ўпрыгожанні, а таксама герб сталіцы Чэхіі [17]. Наступная група дрэварытаў, якія ілюструюць часцей за ўсё старазапаветныя сцэны, верагодна, належыць іншым аўтарам і, магчыма, адбіта паўторна з дрэварытных дошак. Аб такой гіпотэзе сведчыць відавочнае пашкоджанне

ў цэнтральнай частцы кампазіцыі на першай старонцы “Кнігі Іова”.

У выданні “Хагады” 1526 г. на рамцы тытульнай старонкі мы заўважаем сігнатуру гравёра, якая змешчана з левага боку герба ў выглядзе старажытнагабрэйскай літары “ы”, якая ідэнтыфікуе выдаўца Хаіма Шахора (Hayyima Shahor (Schwarz)). Ілюстрацыя з’явіцца ў чарговы раз у аугсбургскай версіі “Хагады” 1534 г. Пазней той жа выдавец друкаваў кнігі ў Іхенаўзене і Хедэрнхайме. Сярод іканаграфічных аналогій назавем дрэварытныя рамкі, якія паходзяць з хрысціянскіх друкаваных выданняў Йоханеса Фрабена (1519) з Базеля[18] або Адама Петры[19]; далёкія водгукі знойдзем таксама ў ілюстрацыях кніг, надрукаваных у Трансільваніі. Прывядзем у якасці прыкладу рамку, хутчэй за ўсё, аўстрыйскага паходжання, якая знаходзіцца ў “Ungarchronik”, выдадзенай у Клужы, — на ёй знаходзім падобныя выявы сірэн[20].

Неабходна адзначыць, што дошкі, якія выкарыстоўваліся пражскімі габрэямі ў друкарнях, “экспартаваліся” далей ва Усходнюю Еўропу. Напрыклад, рамка, якую знаходзім у друкаваных выданнях Х. Шахора (Шварца), будучы копіяй гравюры з пражскай “Хагады” 1526 г., з’явілася ў друкаваных выданнях сына Ісаака[21] ў Германіі — у Іхенаўзене (1545) і Хедэрнхайме (1546).

Затым разам з друкарскім абсталяваннем яна трапіла ў Люблін, дзе сын Х. Шварца атрымаў каралеўскія прывілеі ад Зыгмунта Аўгуста ў 1550 г. Ілюстрацыі можна знайсці ў выданні “Пяцікніжжа” 1556 г.[22] Друкар выдаваў многа кніг, якія траплялі затым ва Усходнюю Еўропу. У 1554 г. быў надрукаваны старагабрэйскі “Малітоўнік” на ўвесь год з кропкамі ў васьмёрцы — так званы “Sidur”. Яго сын Хаім — унук Х. Шварца — працягваў выдавецкую справу, выдаўшы “Пяцікніжжа” ў 1558 г. Менавіта ў ім у канцы твора змешчана гісторыя пра ўцёкі друкароў з Чэхіі, адзначаецца радасць па прычыне выдання кнігі[23]. Згаданая раней рамка чэшскага паходжання была змешчана на ілюстрацыі тытульнай старонкі “Shaarei Dura” 1574 г., адбітай у люблінскай друкарні Калонымаса бен Мордэхай Яфе і яго сыноў Юзафа і Хаіма з дошкі, якая выкарыстоўвалася таксама і іншымі пры выданні “Пяцікніжжа” ў 1530 г.[24] Верагодна, дошка была прададзена разам з часткай друкарні Элізарам, сынам Ісаака, які прыехаў у Люблін каля 1557 г. Частку сваёй друкарні ён перавёз пазней у Сафет, які знаходзіўся ў Верхняй Галілеі, а другая частка была куплена Калонымасам Яфе, сям’я якога паходзіла з Германіі. Бацька яго нарадзіўся ў Чэхіі, але быў выселены адтуль каля 1560 г. Сын прыехаў у Люблін прыкладна ў 1558 г. і стаў супрацоўнічаць з Хаімам, сынам Ісаака Шварца. Прыкладна ў 1573 г. ён распачаў працу над друкаваннем трактатаў вавілонскага Талмуда, які быў паўтарэннем італьянскага выдання Гюсціняна. У “Brit Abraham”, або ў “Саюзе Абраама”, абрамленне тытульнай старонкі таксама паходзіць з друкарняў чэшскіх габрэяў 30-х гг. XVI ст. У той перыяд друкары ілюстрацый люблінскіх друкарняў часта бралі за аснову італьянскія ўзоры. Звязана гэта было з прывозам у Люблін часткі друкарскага абсталявання, якое, верагодна, паходзіла з Мантуі або Венецыі[25]. Прыкладаў такіх знаходзім мноства і ў пазнейшых выданнях, дзе выкарыстоўваліся не толькі элементы, якія паходзілі

з габрэйскіх друкарняў Германіі ці Чэхіі, але таксама і ілюстрацыі з хрысціянскіх друкаваных выданняў. Прыкладам у дадзеным выпадку могуць служыць дрэварыты з “Tsene Urene” 1704 г., адбітыя з арыгінальных дрэварытных дошак Йоста Амана.

Прадстаўленыя вышэй прыклады “экспарту” дрэварытных дошак з Нюрнберга ў Вільню і Люблін праз Прагу сведчаць аб тым, як далёка распаўсюджваліся яны за межы ўплыву лацінскай культуры. Эканамічныя інтарэсы пераважалі над рэлігійнай рознасцю, сведчачы, што мастацтва не мае межаў — як дзяржаўных, так і культурна-этнічных.

*Пераклад з польскай* ***Ганны Ціщук***

---

[1] Urbánková E. Soupis prvotiskû ceského puvodu. Praha, 1986. Nr 25.

[2] Шыфр IQ 189.

[3] Кристеллер И. П. Происхождение московского старопечатного орнамента // Книга: Исследования и материалы. М., 1965. Т. 11. С. 193; Александровіч С. Кнігі і людзі. Мн., 1976. С. 48; Hollstein W. F. H. Dutch and Flemish Etchings, Engravings, and Woodcuts 1450–1700. Amsterdam, 1989. P. 227. Nr 570.

[4] Гл.: Heitz P., Haebler K. Hundert Kalender Inkunabeln. Strassburg, 1905. Nr 66.

[5] Veröfentlichungender gesellschaft für Typennkunde des XV. Jahrhunderts: Wiegendruckgesellschaft. Halle, 1917. T. 11. Pl. 915.

[6] Тамсама. Halle, 1911. T. 5. Pl. 399; Halle, 1913. T. 7. Pl. 518.

[7] Тамсама. Halle, 1923–1924. T. 17–18. Pl. 1424.

[8] Sokolová F. Cyrilské tisky. Výstava z fondu Státnî knihovny ČSR porádaná k 400. Výroči úmrtí Ivana Fjodorova. Listopad 1982. Praha, 1982. S. 19; Яе ж. Cycilské a hlaholské staré tisky v českých knihovnách. Praha, 1997. S. 359; The Precious Legacy: Judaic Treasures from the Czechoslovac State Collections. New York, 1983. S. 272. Nr 278.

[9] Tobolka Z. Knihopis českých a slovenských tisku. Praha, 1941. T. 2. Nr 2. Nr 1099.

[10] Пікарда Г. Скарына, геральдыка і Кабала // Голас Радзімы. 1992. № 52. С. 5.

[11] Vinograd Y. Thesaurus of the Hebrew Book. Jerusalem, 1993. T. 2. P. 531–532.

[12] Winter Z. Kulturní obraz českých měst. Praha, 1890. T. 1. S. 198.

[13] Wengrov Ch. Haggada: An Introduction to the Passover Haggadah completed by Gersom Cohen in Prague Sunday, 26teventh, 5287 (December 20, 1526). New York, 1967. Il. 5.

[14] Шматов Ф. В. Искусство книги… Минск, 1977. С. 49.

[15] Tobolka Z. Op. cit. Nr 5587.

[16] Wengrov Ch. Op. cit. Il. 9a.

[17] Tobolka Z. Op. cit. Nr 5125.

[18] Voltz H. Martin Luthers deutsche Bibel. Hamburg, 1978. Il. 25.

[19] Тамсама. Іл. 351, 352.

[20] Jugareanu V. Bibliographie der Siebenburgischen Frühdrücke. Baden-Baden, 1959. S. 43. Il. 14.

[21] Steiner M. Catalogus Librorum Hebraeorum in Bibliotheca Bodleiana. Berlin, 1931. P. 21. Nr 107.

[22] Тамсама. С. 27. № 1444. Гл.: Vinograd Y. Op. cit. P. 358–359.

[23] Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku / Red. A. Kawecka-Gryczowa.Wrocław, 1983. T. 1. Cz. 1. S. 380.

[24] Judaica. Books, Manuscripts, Works of Art. And Pictures. Christie’s. Sale Numer 2131. Amsterdam, 1987. P. 122. Nr 232.

[25] Drukarze dawnej Polski… S. 388.

*Дональд Кодэр (Чыкага, ЗША)*

# ПОГЛЯД АМЕРЫКАНСКАГА ЛЕКАРА НА СПАДЧЫНУ СКАРЫНЫ

Я вельмі ўсцешаны гонарам, што выпаў мне, — выступаць на секцыі III Міжнароднага кангрэса беларусістаў, прысвечанага ўзаемадзеянню Францыска Скарыны з еўрапейскай культурай. Я не еўрапеец, а амерыканец, не скарыназнаўца, а ўрач-хірург. Я пазнаёміўся са Скарынам толькі тры гады таму, дакладней кажучы, Скарына адкрыў мяне, бо амерыканцу немагчыма жыць у Беларусі, не адчуўшы ўплыву гэтага вялікага сына Полацка. Таму я вельмі ўсцешаны магчымасцю распавесці вам пра тое, што лічу ўплывам Скарыны на наш свет.

**Дональд Кодэр** — доктар медыцыны, прафесар. 35 гадоў працаваў хірургам у Чыкага. Выкладаў ва універсітэце штата Ілінойс. Цяпер працуе ў беларускай філіі Міжнароднай асацыяцыі па барацьбе з наркаманіяй і наркабізнесам. Выступіў на III Міжнародным кангрэсе беларусістаў.

На працягу гадоў, праведзеных у Беларусі, я быў моцна ўражаны сілай уздзеяння Скарынавага жыцця. Ён стаў настолькі важным для мяне, што я напісаў кнігу пра яго, якая мерыцца паказаць прычыну таго, што стала яго сілай. Рабочая назва яе — “Францыск Скарына, наша спадчына і надзея”. Яна будзе аддадзена на рэцэнзію тым, хто ведае пра Скарыну больш за мяне. Мы спадзяемся выдаць яе ў свет да восені. Там няма новай гістарычнай інфармацыі — кніга складаецца з поглядаў амерыканскага доктара на жыццё і сведчыць, як Скарына прапануе рашэнні самых актуальных праблем.

У Скарыне я знайшоў не толькі важную гістарычную асобу, але і чалавека, які прапануе сённяшняй моладзі погляд на жыццё і магчымасці змен у іх жыцці. Маладым чалавекам ён атрымаў высока каціруемы дыплом у адным з выдатнейшых універсітэтаў тых дзён і быў гатовы дасягнуць поспехаў як доктар лекарскіх навук. Але ён таксама заўважыў, што свет быў хворы значна болей, чым на любую хваробу, якую ён вывучаў ва універсітэце. Гісторыя яго жыцця і творчасці сведчыць пра няспынныя спробы прынесці свайму народу ацаленне і збавенне ад галечы і адчаю. Цытата з яго прадмовы да кнігі “Дзеянні Апосталаў” цудоўна ілюструе яго перакананні. Вось што ён піша пра лекара Луку, аўтара трэцяга Евангелля: “Он же, будучи лекарем телесным доскональным, видяй вси речи телесные, иже суть суетны и минущи, возжеле быти лекарем душ наших, еже на образ и на подобенство превечного Бога створеных”. Скарына таксама мог глянуць углыб, праз часовую частку чалавечага жыцця, і ўбачыць спрадвечную вартасць кожнай асобы. Ён ведаў, як Словы Божыя могуць нанава перарабіць чалавека. Ён адкрыў сілу і жыццё, даравanae нам Бібліяй, і прысягнуў, што прынясе гэтыя веды ўсяму свету.

Скарына жыў у часы адчаю і бяды, але ў яго прадмовах я заўважыў адно радасць ды аптымізм, з якімі ён даруе чалавеку новае, лепшае жыццё. У яго час таксама існавалі праблемы падзелу сярод хрысціян, але ён пісаў адно пра еднасць і паслушэнства Ісусу Хрысту, Самому Аўтару хрысціянства. А паколькі

ён быў перакананы, што Біблія ўсім дае магчымасць перамагчы штодзённы адчай, ён прысвяціў сваё жыццё не толькі перакладу і друку, але таксама і перакананню свайго народа ў тым, што трэба чытаць Біблію. У Скарыне я бачу выдатны прыклад чалавека, які ясна бачыў праблемы свайго часу і даваў план вырашэння тагачасных праблем. Ён жыў і пісаў, нібыта сам жыў з людзьмі першага стагоддзя, якія былі ў захапленні ад жыватворнай сілы ўваскрэсення Хрыстова. Таму яго жыццё ёсць прыклад веры, што дала плён у дзеянні, а таму яно — жывы прыклад для нас, людзей XX стагоддзя.

Скарына давяраў сіле напісанага слова, гэтаксама як Сам Бог даверыў чалавеку Слова Сваё ў Бібліі. Таму сённяшняя гісторыя даказвае нам, што справа Скарыны прынесла плён з таго, што ён даверыў свайму народу Біблію на яго мове. Таму ў Скарыне я бачу чалавека веры, які аддаў сваё жыццё для ацалення будучых пакаленняў, і цяпер я, урач, таксама карыстаюся тым плёнам.

Мастакі цудоўна абмалявалі вобраз Скарыны на карціне, якую я так часта бачыў у розных школах. Ён стаіць з Бібліяй, прасцертай да нас, чытачоў, для ўсіх, хто захоча яе прачытаць, паверыць у яе і ёю жыць. Ён прапануе нам тую самую жыватворную сілу, што зрабіла з яго волата гісторыі. Гэта ёсць думка, план дзеянняў і абяцанне. Гэта ёсць Скарынава сіла ў сённяшнім свеце.

*Пераклад з англійскай* ***Глеба Ермакова***

## СКАРЫНА Ў МАІМ ЖЫЦЦІ

Хто такі Скарына, сёння ведае кожны чалавек, які лічыць сябе беларусам.

Скарына — слаўны сын зямлі полацкай. Ён нарадзіўся ў сям'і купца. Але абраў іншы шлях, чым бацька, вырашыў стаць вучоным. І гэта яму ўдалося, бо, напэўна, не хопіць пальцаў, каб пералічыць усе заслугі і дасягненні Скарыны.

Для мяне, як і для многіх іншых, Скарына — агеньчык ведаў, які перадаваў іскры асветы ў самыя цёмныя куткі Радзімы. Бо менавіта з дапамогай скарынаўскіх кніг людзі ў нас пачалі вучыцца грамаце па друкаванаму тэксту.

Для мяне, вучаніцы школы імя Ф. Скарыны, яго імя блізкае і сімвалічнае. Наша школа — адзіная ў Літве, у якой дзеці грунтоўна вывучаюць родную мову. Можа, з цягам часу будуць адкрывацца іншыя падобныя школы, але наша — першая. Пасля Скарыны было шмат таленавітых і заслужаных асоб у Вялікім Княстве Літоўскім, але ён быў першым.

Скарына, безумоўна, пакінуў вялікі след пасля сябе. Асабліва гэта адчуваецца на былой тэрыторыі ВКЛ. У Мінску ёсць вялікі праспект Ф. Скарыны. А ў Вільні — і мемарыяльная дошка, і вуліца яго імя. Але я лічу найвялікшым нашым багаццем тое, што ў бібліятэцы Вільнюскага універсітэта знаходзіцца адна з першых кніг Скарыны. Усяго іх тры экземпляры: адзін — у Вільні, другі — у Празе, трэці — у Лондане.

Скарыну шмат што звязвала з Вільняй. Ён тут жыў, тут з дапамогай бургамістра друкаваў свае кнігі. Таму ён і дарагі віленчукам-беларусам.

***Таццяна Дашкевіч****, вучаніца 10 класа Вільнюскай школы імя Ф. Скарыны*

*(Тэкст дасланы на вучнёўскі конкурс "Скарына ў маім уяўленні")*

# БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА ДРУЖБЫ Ў ДЗЕЯННІ






## БЕЛЬГІЙСКІ ГОСЦЬ З ЛІТЭКСПРЭСА

Тры гады спела ідэя аб Міжнародным праекце "Літаратурны экспрэс Еўропа – 2000". Належыць

*Сябры таварыства "Беларусь – Бельгія" на могілках ахвяр Першай сусветнай вайны каля г. Іпрыт (Бельгія)*

яна доктару філалогіі з Германіі Томасу Вольфарду. Цудоўная ідэя пра сумесную вандроўку пісьменнікаў з розных краін Еўропы здзейснілася. Адбыліся сустрэчы, знаёмствы. Атрыманы цікавыя ўражанні ад краін, якія наведалі пісьменнікі. А шлях іх праходзіў праз Партугалію, Іспанію, Францыю, Бельгію, Германію, Літву, Латвію, Эстонію, Расію, Беларусь, Польшчу. Безумоўна, у выніку будуць напісаны цікавыя творы.

На "Літаратурным экспрэсе", які прыбыў у Мінск 9 ліпеня, прыехалі і два паэты з Бельгіі: Камэль Ванхол, які піша на фламандскай мове, і Нікалас Ансьон. Сябры таварыства "Беларусь – Бельгія" сустрэліся з Камэлем Ванхолам. Высокі, зграбны, з чорнымі валасамі, сумнымі шэрымі вачыма і вельмі стомленым тварам, які сведчыў аб тым, што гэта была не проста лёгкая вандроўка, а праца. Відаць, гэтая "адгадка" была "напісана" на нашых тварах, бо ён сказаў: "Стаміўся. Цягнік, сустрэчы днём, вечарам артыкулы пішу. Нават жонцы не было часу патэлефанаваць".

Разам з іншымі пісьменнікамі мы паехалі ў Вязынку — да Купалы і на Купалле. Там усіх сустракалі хлебам-соллю і цудоўнай беларускай музыкай у выкананні розных гуртоў. Каля аднаго з іх Камэль доўга стаяў, слухаў, распытваў, фатаграфаваў. Спадабалася і музыка, і інструменты, і спевакі, і іх строі.

Мы расказалі госцю легенду пра папараць-кветку, Купалле, пра вялікага беларускага паэта, яго трагічны лёс, пазнаёмілі з музеем. Ён зрабіў запіс у кнізе

ганаровых гасцей пра тое, што вельмі ўражаны пачутым і ўбачаным, што ў такім прыгожым кутку зямлі і павінен быў нарадзіцца вялікі паэт… На жаль, ён раней не чуў пра Янку Купалу і вельмі мала ведаў пра Беларусь. Аб сабе госць расказаў наступнае. Нарадзіўся ён каля Бруселя, у Етэрбеску ў 1954 г. Скончыў Каталіцкі універсітэт у Лювене. Стаў фламандскім паэтам. Замест службы ў арміі праходзіў альтэрнатыўную службу ў галерэі прыгожага мастацтва ў Бруселі. Яго маці малявала , а ён любіў назіраць, як яна гэта робіць. Лічыць, што стаў паэтам невыпадкова, бо брат прадзеда яго маці паехаў у Амерыку і, зарабіўшы грошы, адкрыў там літаратурны часопіс.

Камэль Ванхол аўтар п'ес, якія былі пастаўлены ў тэатрах Гента і Маастрыхта, і вершаў, якія ўстаўляе ў п'есы, раманы. Тэматыка яго творчасці — прырода, гісторыя, мастацтва. Ён любіць назіраць за матылямі. Аднойчы быў сведкам, як чарапаха злавіла і з'ела вельмі прыгожага матыля. Узрушаны, як хутка і нечакана загінула прыгажосць, ён напісаў раман "Укус чарапахі". Яго хвалюе стан культуры яго народа і вайна ў Чачні. І гэтыя пытанні знаходзяць адлюстраванне ў яго артыкулах.

Наша гутарка адбылася каля музея Янкі Купалы ў Вязынцы.

*__Тамара Антановіч__, старшыня Таварыства "Беларусь – Бельгія"*



## З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

### ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ МГА "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

Паведамляем усім зацікаўленым асобам замежжа, што запланаваная на 26–27 верасня 2000 г. пасяджэнне Вялікай рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", на якім меркавалася разгледзець пытанні падрыхтоўкі да Трэцяга з'езда беларусаў свету (ліпень 2001), пераносіцца на 6–7 снежня 2000 г. Уся імпрэза разглядаецца намі як заключнае мерапрыемства ў святкаванні 10-годдзя МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" (афіцыйная дата — 10–11 верасня 1990 г.).

Такое рашэнне прынята намі з-за фінансавых цяжкасцей і фізічнай немагчымасці шмат якіх беларусаў замежжа — адначасова сяброў МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" і ГА "МАБ" — прыехаць у Мінск два разы за кароткі прамежак часу.

Просім мяркуемых удзельнікаў пацвердзіць сваю прысутнасць з улікам новага тэрміну.

***Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"***
*7 жніўня 2000 г.*



## ПАДЗЯКА

Рэдкалегія "Кантактаў і дыялогаў" выказвае сардэчную падзяку віцэ-прэзідэнту Грамадскага аб'яднання "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў" спадарыні ***Монікі Банкоўскі*** *(Цюрых, Швейцарыя)* за дапамогу ў выданні гэтага нумара, які выходзіць павялічаным аб'ёмам.

Сп. Моніка Банкоўскі аказала таксама вялікае садзейнічанне, каб у выданні бліжэйшых нумароў нам дапамог швейцарскі фонд "Pro Helvetia".

# З РЭДАКТАРСКАГА БЛАКНОТА



Увесці ў “Кантакты і дыялогі” новую рубрыку мяне падштурхнуў тэлефонны званок:

— Каму з лідэраў беларускай апазіцыі аддае ваша выданне перавагу?

— Каму? Мы — выданне навуковае і палітыкай у прамым сэнсе гэтага слова не займаемся. У рэдактара могуць быць толькі асабістыя сімпатыі і антыпатыі. Таму пастаўце пытанне інакш: не каму, а — чаму? Бюлетэнь, як і асацыяцыя беларусістаў у цэлым, “аддае перавагу” беларускасці, беларускай культуры, беларускай спадчыне, іх пашырэнню ў свеце.

А і сапраўды, падумалася пасля званка, чаму б не выказваць, хаця б праз нумар, сваё рэдактарскае крэда, свае адносіны да іншых публікацый?! А заадно і не расказваць пра некаторыя справы асацыяцыі?!

Гэты нумар “Кантактаў і дыялогаў” у нас атрымаўся пераважна скарынаўскім, кнігазнаўчым. Ды яно і зразумела: у пачатку верасня мы адзначаем Дзень беларускага друку і пісьменства. Да таго ж, сёлета святкуецца ўмоўнае 510-годдзе з часу нараджэння нашага першадрукара Францыска Скарыны і 475-годдзе з часу выхаду ў Вільні яго “Апостала” (у 1925 г. гэтая дата адзначалася як 400-годдзе друку Беларусі, бо тады не было вядома пра больш ранняе з’яўленне “Малой падарожнай кніжкі”). Сёлета славутаму Палачаніну былі прысвечаны пасяджэнні секцыі “Францыск Скарына і еўрапейская культура” ў час III Міжнароднага кангрэса беларусістаў. Матэрыялы секцыі часткова друкуюцца ў гэтым нумары.

Хочацца адзначыць, што сёлета з’явілася некалькі цікавых скарыназнаўчых публікацый. Сярод іх я выдзеліў бы артыкул Генадзя Кісялёва “Прыцягненне Скарыны” (Полымя. 2000. № 5). Раней гэты вядомы гісторык літаратуры займаўся толькі XIX і пачаткам XX ст. Цяпер жа зацікавіўся пачаткам XVI ст. — “зорным, шчаслівым для беларусаў часам”. “Неафіт” у скарыназнаўстве, як ён сам сябе называе, аўтар, тым не менш, змог даць арыгінальную і, у цэлым, слушную ацэнку дзвюм скарыназнаўчым працам, якія выклікалі супрацьлеглыя меркаванні: даследаванню англійскага беларусіста Гая Пікарды “Алегарычная геральдыка Францішка Скарыны” і кнізе Уладзіміра Агіевіча “Сімволіка гравюры Скарыны”. Высока ацэньваючы іх, Г. Кісялёў адначасова пераканаўча палемізуе, асабліва з У. Агіевічам, перасцерагае апошняга, “каб натуральная навуковая спрэчка не перарастала часам у задзірыстасць, у непавагу да думкі апанента”. Датычыцца гэта, у асноўным, двух момантаў: даты нараджэння Скарыны і яго імя. У. Агіевіч па-свойму і “занадта складана патлумачыўшы”

сімволіку яго партрэта, прыйшоў да вываду, што першадукар нарадзіўся 23 красавіка 1476 г. і што называць яго трэба Георгіем. Г. Кісялёў аргументавана запярэчыў, што ў дакументах Падуанскага універсітэта 1512 г. Скарына ўсё ж названы "маладым чалавекам" і таму бліжэй да ісціны "шчакаціхінскі" 1486 г. І з гэтым можна пагадзіцца, бо агульнапрыняты 1490 г. усё ж вельмі ўмоўны (тады выходзіла б, што Скарына стаў студэнтам Кракаўскага універсітэта ў 14 год). Што ж датычыцца імя, то Г. Кісялёў прыгадаў артыкул Г. Галенчанкі (Кантакты і дыялогі. 1996. № 9), які знайшоў арыгінал каралеўскай граматы 1532 г., дзе ўжо няма памылкі перапісчыка, якую можна расчытаць "Георгій". "Мяркучы па ўсім, Скарына сапраўды меў ад нараджэння іншае, "рускае" імя, але якое менавіта — мы, на вялікі жаль, так дагэтуль і не ведаем", — заключае аўтар артыкула. І таму, дадамо ад сябе, трэба друкара называць так, як ён сам сябе называў у выданнях, — Францыскам (Францішкам).

Істотнае значэнне мае думка Г. Кісялёва, што "трохкутнік" і "трапецыя" на партрэце Скарыны ( і іншых ілюстрацыях) — гэта не элементы гербаў Калантаяў і Жабаў, якія нібыта былі мецэнатамі нашага першадрукара, а сімвалічныя знакі віленскіх купцоў Бабіча і Онкава, якія сапраўды яму дапамагалі. Аргументацыя "неафіта" асабліва важная, калі згадаць, што існуюць іншыя меркаванні, якія, скажам далікатна, не садзейнічаюць разуменню паміж этнасамі і канфесіямі ды і гістарычнай праўдзе не адпавядаюць. У мінскай газеце "Столичная" (1998. № 4) быў надрукаваны артыкул "Шалом, Францыск!" (назва якая!) Алега Карповіча, дзе, са слоў аднаго мастака, сцвярджаецца, нібы Скарына вінаваты ў… габрэйскіх пагромах, якія ўчынілі палякі ў XVI ст. Чаму? Ды таму, што "палякі помсцілі яўрэям за тое, што тыя фінансавалі выданне… скарынінскай "Библии Русской". Але ж факт фінансавання габрэямі скарынаўскіх выданняў невядомы і ўвогуле неверагодны. Як і факт габрэйскіх пагромаў у талерантнай Беларусі XVI ст. Дарэчы, віленскія габрэі ў той час мелі свой беларускі пераклад пяці кніг Біблії, нядаўна апублікаваны ізраільскім беларусістам М. Альтбаўэрам. То навошта было ім фінансаваць выданне чужога перакладу?!

Ад XVI ст., ад Скарыны, пяройдзем да бліжэйшых нам па часу падзей, да III Міжнароднага кангрэса беларусістаў, да спраў асацыяцыі беларусістаў увогуле. Многія пыталіся і пытаюцца: як, на маю думку, прайшла першая сесія кангрэса? Прайшла, здаецца, нармальна, больш спакойна, чым другі кангрэс. Вядома, былі накладкі, выкліканыя недастатковым фінансаваннем, былі даклады, невысокія па свайму навуковаму ўзроўню, не дужа звязаныя з абвешчанай праблематыкай (застаецца адно: не ўключаць іх у выданне матэрыялаў). Мог бы быць і большы рэзананс у сродках масавай інфармацыі. Але так ужо супала: у Мінску якраз адбываліся важныя палітычныя падзеі, і яны прыцьмілі кангрэс.

Калі ж гаварыць пра рэакцыю друку, то яна была зацікаўленай. Многа ўвагі кангрэсу ўдзяліла "Звязда", адгукнуліся "Голас Радзімы", "Культура", "Літара-

тура і мастацтва”, “Народная газета”, “Белорусская деловая газета”, “Наша свабода”, “Belarus’ Today” і нават маладзечанская “Рэгіянальная газета”. Як станоўчае яны адзначылі масавасць удзелу, прыток навуковай моладзі (а значыць, і нашай змены). Грунтоўныя артыкулы прысвяцілі кангрэсу маскоўскія “Известия”, беластоцкая “Ніва”, варшаўскія “Nowe Kontrasty”, вільнюская “Literatūra ir menas”, амерыканскія “Весткі й паведамленьні” і “Беларускі дайджэст”. Што датычыцца апошніх дзвюх публікацый, дык у мяне існуюць істотныя засцярогі, удакладненні. “Весткі й паведамленьні” (Нью-Йорк) у нумары за 31 мая (аперативуна) у сенсацыйным тоне пісалі, што, маўляў, улады не хацелі перавыбрання Адама Мальдзіса прэзідэнтам асацыяцыі, што былі супрацьдзеянне і нават “шантаж” і “подкуп”. Што датычыцца супрацьдзеяння перавыбранню з боку ўлад, то я спытаў Генадзя Цыхуна, віцэ-прэзідэнта МАБ, які вёў справаздачна-перавыбарчае пасяджэнне, ці быў на яго які націск перад галасаваннем. Не, адказаў ён, не было. Пра “подкуп” я нічога не ведаю. Тое ж, што можна было палічыць “шантажом”, мела іншыя, больш прыватныя прычыны.

Наступная засцярога. “Беларускі дайджэст” (2000. № 6) абураўся, што кіраўніцтва НАН Беларусі прадаставіла для пасяджэнняў не вельмі прывабную залу гуманітарыяў. Але ж, трэба патлумачыць, у кіраўніцтва акадэміі, якое, з’яўляючыся нашым сузаснавальнікам, ставіцца да нас прыхільна, не было іншага выбару, бо, па збегу абставін, у галоўнай зале праходзіў якраз больш шматлюдны Міжнародны кангрэс па цепла- і масаабмену. А наняць больш прэстыжнае памяшканне ў нас не хапала сродкаў.

І яшчэ адно: маё выступленне на адкрыцці кангрэса ў “Беларускім дайджэсце” няправільна інтэрпрэтавана — нібыта там даваліся палітычныя ацэнкі інтэграцыйным працэсам (гэта не ўваходзіла ў мае задачы). Каб не стамляць чытачоў доўгім цытаваннем, заклікаю тых, каго гэта цікавіць, супаставіць мае словы (Кантакты і дыялогі. 2000. № 6. С. 3–4) з іх пераказам ў амерыканскім месячніку.

Як бы там ні было, першая сесія кангрэса прайшла, выбары адбыліся. Цяпер абноўлены камітэт рыхтуе другую сесію кангрэса, адкладзеную на два месяцы па фінансавых прычынах (гл. вокладку папярэдняга нумара нашага бюлетэня). Пачалося рэдагаванне матэрыялаў першай сесіі кангрэса. Набіраецца чарговы выпуск “Беларусікі”, які будзе мець назву “Уладзімір Караткевіч і яго творчасць у еўрапейскім культурным кантэксце”. Ёсць і менш прыкметныя, але важныя справы. Адгукнуўшыся на ліст праф. Майслінгера з Аўстрыі, дапамагаем у выяўленні беларускіх остарбайтэраў, якія былі вывезены ў гэтую краіну, а цяпер павінны атрымаць кампенсацыю. Робім новыя захады, каб скарыназнаўцы з краін, дзе пабываў наш першадрукар, атрымалі б тытул ганаровага доктара Полацкага універсітэта. Закончылася змаганне за амністыю для нашага мецэната з Сібіры Анатоля Сілівончыка, які па непаразуменню (у гэтым я пераканаўся, пабываўшы на пасяджэнні суда ў Светлагорску), атрымаў турэмны тэрмін (днямі ён урэшце быў нашым госцем). Кожны дзень у ГА “МАБ” і ў рэдакцыю бюлетэня прыходзіць па некалькі лістоў, за якімі стаяць

новыя справы, і мы просім прабачэння за тое, што часам яны занадта доўга чакаюць сваёй чаргі для адказу. Бо вызваленых, штатных супрацоўнікаў у нас няма.

У заключэнне хочацца публічна выказаць абурэнне з нагоды аднаго ліста, які прыйшоў да нас з НВП "СпецЭлектраАўтаматыка" (Мінск, вул. Якуба Коласа, 38–402). У ім аказаўся рэкламны праспект "Энцыклапедыі Кірыла і Мяфодзія", якая рыхтуецца ў Маскве, а тыражыруецца (на кампакт-дысках) у Вялікабрытаніі. Нашай увазе прапануюцца не толькі "Вялікая энцыклапедыя Кірыла і Мяфодзія", што нармальна, ці "Энцыклапедыя кіно Кірыла і Мяфодзія" (няхай!), але і "Энцыклапедыя рока, джаза і поп-музыкі Кірыла і Мяфодзія", "Грошы Кірыла і Мяфодзія" і нават "Энцыклапедыя ўзбраенняў Кірыла і Мяфодзія" ("Гісторыя зброі і войнаў — гісторыя перамог і паражэнняў"). Няўжо дзялкі ад бізнесу не разумеюць, што гэта — ненармальны, нехрысціянскі рэкламны ход, што гэта — прафанацыя той вялікай справы, якой служылі славянскія асветнікі і святыя Кірыл і Мяфодзій?!




У свой час "Кантакты і дыялогі" рашуча запратэставалі супраць таго, што завод "Крыніца" пачаў выпускаць піва "Скарына" з яго партрэтам на этыкетцы. "Крыніца" прыслухалася і зняла гэтую назву і нават аплаціла палавіну коштаў друку аднаго нумара нашага бюлетэня. Спадзяемся, што так будзе і ў выпадку з мінска-маскоўскімі энцыклапедыстамі.

***Адам Мальдзіс***



## З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

### БЕЛАРУСЬ – ГРЭЦЫЯ

26 кастрычніка 2000 г. Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь, Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Грэчаскае нацыянальна-культурнае таварыства "Алкестыда" ладзяць Рэспубліканскую навукова-практычную канферэнцыю "Беларуска-грэчаскія ўзаемасувязі ад старажытнасці да сучаснасці". Будуць абмеркаваны пытанні кантактаў Візантыі з Полацкім княствам і іншымі беларускімі землямі, гандлю на шляху "з варагаў у грэкі", уплыву візантыйскага праваслаўя на духоўнае жыццё Беларусі, эканамічных і культурных сувязей у XX ст.

Заяўкі на ўдзел у канферэнцыі падалі дактары гістарычных навук Леанід Лыч, Леанід Побаль, Валянцін Рабцэвіч, Сяргей Рассадзін, Уладзімір Снапкоўскі, Георгій Штыхаў, іншыя вучоныя. Аргкамітэт мяркуе выдаць да канферэнцыі яе матэрыялы.

***Ніна Ходар***



## АЛЕХНІК АЛЕСЬ



***Алехнік Алесь*** *(Аляксандр; 31.07.1929, хут. Перунова Лунінецкага пав. Палескага ваяв., цяпер Лунінецкі р-н Брэсцкай вобл.), дзеяч беларускай дыяспары ў Аўстраліі, мемуарыст.*

А. Алехнік нарадзіўся на Палессі ў досыць заможнай сялянскай сям’і. Хлопчык рана навучыўся чытаць, таму быў прыняты ў польскую школу ў пяцігадовым узросце. Потым вучыўся ў беларускай дзесяцігодцы ў Лахве. У 1944 г. сям’ю Алехнікаў вывезлі ў Германію, дзе яны працавалі на заводзе каля Мюнхена. У 1945 г. былі вызвалены амерыканцамі, жылі ў лагеры для перамешчаных асоб. Закончыўшы ў Мюнхене аўтамеханічныя курсы, А. Алехнік рана далучыўся да беларускага грамадска-культурнага жыцця, прадстаўляў беларусаў на розных заходнегерманскіх канферэнцыях.

У 1950 г. сям’я Алехнікаў пераехала ў Аўстралію. Спачатку А. Алехнік працаваў на будоўлях у аддаленых раёнах краіны. У 1953 г. перасяліўся да бацькоў у Сідней і заняўся грамадскай працай. З яго актыўным удзелам было створана Беларускае аб’яднанне Аўстраліі, арганізавалася беларуская праваслаўная царква, пачалі выходзіць газеты, працаваць радыё, узнік Беларускі культурна-грамадскі клуб, які дзейнічае і да сёння. З 1965 г. А. Алехнік прадстаўляў беларусаў на канферэнцыях і іншых мерапрыемствах у Маніле, Сеуле, Сіднеі, Сайгоне, Кіота. Выступаў там з дакладамі. У выніку пра Беларусь і беларусаў сталі больш ведаць у свеце. Быў выбраны генеральным сакратаром Беларускага аб’яднання Аўстраліі. У 1999 г. у Вільнюсе выйшла з друку кніга ўспамінаў А. Алехніка “Memento Patriam = Памятай пра Радзіму”, якая мае інфармацыйна-пазнавальную і мастацкую каштоўнасць.

***Павел Саўчанка*** *(Вільнюс)*

# БАРШЧЭЎСКАЯ НІНА

***Баршчэўская Ніна** (29.06.1956, мяст. Козлікі Гайнаўскага пав. Беластоцкага ваяв., Польшча), доктар філалогіі, беларускі грамадскі і культурны дзеяч.*

Н. Баршчэўская нарадзілася ў беларускай сялянскай сям'і. Вучылася ў вясковых школах Кожына і Гародчына. З дзяцінства вывучала беларускую мову. Пасля заканчэння васьмі класаў паступіла ў агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання імя Б. Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім, які закончыла ў 1975 г. Затым вучылася на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта (1975–1980), дзе паглыбляла свае веды па беларускай мове і літаратуры. Тэмай дыпломнай работы сталі беларускія гаворкі Беласточчыны. Праходзіла навуковую стажыроўку на той жа кафедры, дзе працуе па сённяшні дзень. У 1988 г. абараніла доктарскую дысертацыю пра дыялектызмы ў беларускай мове. Займаецца праблемай стаўлення беларускай эміграцыі да роднай мовы. У падрыхтоўцы навуковых прац ёй дапамаглі прафесар Леў Шакун і айцец Аляксандр Надсон, а таксама стажыроўка на кафедры беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў Мінску і ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане. Яшчэ адна дзялянка працы Н. Баршчэўскай — беларуская рэдакцыя Польскага радыё.



Н. Баршчэўская — аўтар шматлікіх навуковых публікацый. Сярод іх "Некалькі меркаванняў пра змены значэнняў лексем, абумоўленых моўнай інтэрферэнцыяй", "Вясельны абрад на Беласточчыне: семантычна-параўнальная інтэрферэнцыя", "Моўныя версіі газеты "Мужыцкая праўда", "Пра дыялектызмы ў мове Янкі Купалы", "Пра дыялектызмы ў мове Якуба Коласа", "Пра дыялектызмы ў беларускай літаратурнай мове", "Беларусь і Польшча — скрыжаванне шляхоў", "Моўныя пытанні на старонках беларускіх эміграцыйных выданняў у Нямеччыне", "Ідэя абароны беларускай мовы на старонках "Бацькаўшчыны" і інш. Яе артыкулы з'яўляліся на старонках розных перыядычных выданняў Польшчы і Беларусі. У сааўтарстве былі ёй распрацаваны праграмы для школ з вывучэннем беларускай мовы. Была рэдактарам "Беларускага календара" на 1989 і 1992 г. Выступала з дакладамі на розных міжнародных навуковых канферэнцыях. Прымала ўдзел у II і III Міжнародных кангрэсах беларусістаў.

***Ірына Тамільчык***

## ВОЙЦІК ГАЛІНА

***Войцік Галіна Антонаўна*** *(1.07.1927, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва), філолаг, дацэнт Вільнюскага універсітэта, перакладчык, беларускі грамадскі дзеяч.*

Г. Войцік нарадзілася ў сям'і беларускага дзеяча Антона Войціка і беларускай пісьменніцы Зоські Верас (Людвікі Сівіцкай). Вучылася ў Віленскай беларускай гімназіі, Вільнюскім універсітэце. Закончыла аспірантуру пры Інстытуце замежных моваў у Маскве. Абараніла ў 1963 г. кандыдацкую дысертацыю. Выкладала нямецкую мову ў Вільнюскім педінстытуце, працавала на беларускай кафедры Вільнюскага педуніверсітэта.



Г. Войцік — аўтар шматлікіх прац і дапаможнікаў для студэнтаў-філолагаў. Пераклала з літоўскай на беларускую мову кнігу Ч. Худабы "Па Віліі: Падарожныя запісы" і інш. Напісала кнігу пра свайго мужа "Лявон Луцкевіч". Падрыхтавала да выдання кнігу Лявона Луцкевіча "Вандроўкі па Вільні", кнігу ўспамінаў Зоські Верас. Пры актыўным удзеле Г. Войцік друкаваліся ўспаміны пра беларусаў Вільнюса пад рубрыкай "Постаці" ў газеце "Рунь". З'яўляецца галоўным рэдактарам радыёперадачы "Беларускае слова на хвалях Літвы", запісы якой выкарыстоўваюцца ў Вільнюскай беларускай школе імя Ф. Скарыны на ўроках мовы і літаратуры. Часта выступае перад вучнямі гэтай школы.

Г. Войцік — член міжнародных асацыяцый беларусістаў і германістаў. Жыве ў Вільнюсе.

***Леакадзія Мілаш*** *(Вільнюс)*

## КУЗЬМЕНКА УЛАДЗІМІР

***Кузьменка Уладзімір Міхайлавіч*** *(13.8.1935, в. Заполле Клічаўскага р-на Магілёўскай вобл.), мастак, культурна-грамадскі дзеяч беларускай дыяспары ў Літве.*

У. Кузьменка нарадзіўся ў сям'і служачага. У час Другой сусветнай вайны, з 1943 да 1945 г., разам з маці знаходзіўся ў канцлагерах Польшчы, Германіі, Аўстрыі. Пасля вызвалення хадайнічаў перад амерыканскай вайсковай адміністрацыяй аб вяртанні ў СССР. Выхоўваўся ў дзіцячым доме ў Падброддзі (Пабрадзе, Літва),

быў сынам палка вайсковай часці № 40272 у г. Укмерге (Літва). У 1958 г. закончыў Мінскае мастацкае вучылішча, у 1965-м — Мінскі тэатральна-мастацкі інстытут. Яго настаўнікамі былі вядомыя мастакі А. Малішэўскі, Л. Лейтман, К. Касмачоў, А. Кашкурэвіч, М. Данцыг, У. Стальмашонак, Х. Ліўшыц. Да 1967 г. У. Кузьменка працаваў выкладчыкам у Мінскім педагагічным вучылішчы, у розных мастацка-вытворчых майстэрнях Мінска і Магілёва, у Вільнюскай студыі выяўленчага мастацтва пры Палацы чыгуначнікаў.

З 1965 г. У. Кузьменка выстаўляўся ў Мінску, Маскве, Санкт-Пецярбургу (Ленінградзе), Вільнюсе, Магілёве, Йыхві (Эстонія). Яго карціны знаходзяцца ў прыватных калекцыях Літвы, Польшчы, Беларусі, ЗША, Швецыі, Ізраіля, Аўстраліі і іншых краін свету. Ён выканаў насценныя роспісы ў Магілёўскім вучылішчы транспартнай міліцыі, удзельнічаў у афармленні ВДНГ Беларускай ССР у Мінску, распрацоўваў эскізы і афармленне інтэр'ераў архітэктурнага комплекса ў калгасе "Савецкая Беларусь" Камянецкага р-на Брэсцкай вобл., а таксама бара "Шынок у Лявона" ў Мінску. У. Кузьменка — шматпланавы мастак. Ён працуе і алеем, і акварэллю, выдатна валодае тэхнікай кампазіцыі, тонка адчувае прыроду. Шмат увагі ўдзяляе замалёўкам старога Вільнюса, звяртаецца да нацюрморта і партрэта. Яго стыль блізкі да традыцый беларускай рэалістычнай школы.



У. Кузьменка прымае актыўны ўдзел у грамадскім і культурным жыцці беларускай дыяспары ў Літве. Узнагароджаны медалём Літоўскай Рэспублікі "У памяць аб 13 студзеня". Жыве ў Вільнюсе.

***Валянцін Нідзянскі** (Вільнюс)*

## ЛУКАШЭВІЧ ЮЗАФ

***Лукашэвіч Юзаф** (26.03.1927, в. Дубае Пінскага пав. Палескага ваяв., цяпер Пінскі р-н Брэсцкай вобл.), матэматык, прафесар Вроцлаўскага універсітэта (Польшча), рэлігійны, грамадскі і культурны дзеяч.*

Ю. Лукашэвіч мае ў Беларусі і Літве даўнія карані. Дзед па лініі маці Напалеон Роўба (1860–1929) сябраваў з Францішкам Багушэвічам, пасля яго заўчаснай смерці напісаў пра яго падрабязныя ўспаміны. Журналіст і літаратар, ён пакінуў кнігі "Спадарожнік у вандроўцы па Літве і Беларусі" (Вільня, 1909)

і цыкл рэпартажаў “Па слядах Вешчуна” (Варшава, 1898), напісаны да стагоддзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Абедзве гэтыя працы былі ўзноўлены стараннем Ю. Лукашэвіча (Гданьск, 1995, Вроцлаў, 1999, 2000). Бацька, Станіслаў Лукашэвіч, быў землеўласнікам, але пасля Першай сусветнай вайны яго сямейныя ўладанні аказаліся за граніцай, у Літве, таму працаваў настаўнікам у сельскагаспадарчых школах (паміж іншым, у родным Дубае), а пасля, да 1939 г., візітатарам гаспадарчых школ у куратарыі.

Ю. Лукашэвіч распачаў вучобу ў езуіцкай школе ў Вільні. У 1944 г. нядоўгі час быў салдатам VII брыгады Арміі Краёвай. Пасля раззбраення яго вывезлі ў Калугу, адкуль у 1946 г. выехаў у Польшчу. Закончыўшы падрыхтоўчыя курсы ў Торуні, з восені 1946 г. пачаў заняткі матэматыкай ў Вроцлаўскім універсітэце. Пасля яго заканчэння там жа выкладаў. У 1981 г. быў выбраны рэктарам Вроцлаўскага універсітэта (адкліканы ў сувязі з увядзеннем ваеннага становішча). У навуковым даробку Ю. Лукашэвіча звыш 60 навуковых прац у галіне матэматыкі. У 1958 г. быў запрошаны выкладаць у Матэматычным інстытуце Кітайскай акадэміі навук у Пекіне. У 1960 г. атрымаў ад Фонду Форда дзевяцімесячную навуковую стажыроўку ў ЗША. У 1988–1990 гг. з’яўляўся членам Грамадзянскага камітэта пры Леху Валенсе.



Ю. Лукашэвіч — актыўны арганізатар рэлігійнага жыцця. У 1946 г. заснаваў у Вроцлаве гурток каталіцкай студэнцкай арганізацыі “Ювентус хрысціяна” (гэтая арганізацыя ўзнікла ў Мінску яшчэ да рэвалюцыі 1917 г.). Адзін з арганізатараў у 1957 г. Клуба каталіцкай інтэлігенцыі ў Вроцлаве. Затым член навуковай рады епіскапа Польшчы, камісіі Епіскапата па справах экуменізму. Арганізатар і ўдзельнік многіх пешых пілігрымак: у Рым (1980), праз Гродна ў Вільнюс (1992, 1993). У 2000 г. у шосты раз вандраваў пешшу разам з пілігрымамі з Баранавіч да Будслава. З’яўляецца членам праўлення Агульнапольскага клуба прыхільнікаў Літвы і членам рэдкалегіі квартальніка “Літуанія” (Варшава), прысвечанага праблемам Цэнтральна-Усходняй Еўропы (у тым ліку Беларусі). У 2000 г. быў узнагароджаны ганаровым медалём “Інтэгральны гуманізм”, устаноўленым літоўскімі і польскімі дзеячамі культуры. У абгрунтаванні гэтай узнагароды ўказана, што яна была нададзена “за рэалізацыю каштоўнасці першынства ва ўсіх галінах грамадскага і прыватнага жыцця”.

***Наталля Ракіцкая*** *(Гродна)*

## ПРАЛАТ ГЛАФІРА



***Пралат Глафіра Міхайлаўна*** *(26.05.1960, в. Гарадок Маладзечанскага р-на Мінскай вобл.), беларуская спявачка. Знаходзіцца ў Іспаніі.*

Г. Пралат, сястра беларускага спевака Валянціна Пралата, які жыве ў Празе (пра яго мы ўжо пісалі ў “Кантактах і дыялогах”), вучылася ў Гарадоцкай сярэдняй школе. У 1980 г. скончыла па класу вакала Маладзечанскае музычнае вучылішча, а ў 1986 г. — Адэскую кансерваторыю. У 1990-я гг. распачала канцэртную дзейнасць у сталіцы Іспаніі Мадрыдзе. У рэпертуары спявачкі (сапрана) — класічныя творы, беларускія народныя песні.

***Мікалай Ігнатовіч***

## САБАЛЕЎСКІ АНТОН



***Сабалеўскі Антон Аляксандравіч*** *(17.11.1926, Мінск), інжынер-будаўнік, палкоўнік у адстаўцы, грамадскі дзеяч беларускай дыяспары ў Расіі.*

А. Сабалеўскі нарадзіўся ў сям’і настаўнікаў. Яго бацька, Алесь Аляксандравіч, быў адным з першых дырэктараў беларускамоўных школ г. Мінска. Бацькі, якія ў 1920–я гг. удзельнічалі ў нацыянальна-культурным руху краіны, выхавалі ў хлопчыка любоў да беларускага краю, да роднай мовы. А. Сабалеўскі вучыўся ў беларускамоўнай школе. У 1951 г. закончыў будаўнічы факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута. З 1952 г. жыве ў Маскве. Да 1981 г. служыў у арміі. Пасля выхаду ў адстаўку працаваў ў Міннафтагазбудзе.

Наш суайчыннік актыўна займаецца культурна-грамадскай дзейнасцю. Удзельнічае ў рабоце Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны, старшынёй якога быў у 1992–1993 гг. А. Сабалеўскі — сябра

шматлікіх суполак і аб’яднанняў: Маскоўскага рэгіянальнага аб’яднання беларусістаў, Міжнароднага фонду Янкі Купалы, Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”.

***Аляксей Каўка*** *(Масква)*

## СТАНКЕВІЧ ЗДЗІСЛАЎ



***Станкевіч Здзіслаў*** *(28.11.1929. в. Вялікая Сваротва Навагрудскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл.), педагог, гісторык,*

З. Станкевіч нарадзіўся ў беларускай сям’і. Бацька служыў у паліцыі, маці працавала настаўніцай. Прадзеды з абодвух бакоў былі ўдзельнікамі паўстання 1863 г. Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны наш суайчыннік застаўся жыць у Польшчы, на Памор’і, дзе працаваў журналістам. У 1959 г. закончыў сацыяльна-педагагічны факультэт Варшаўскага універсітэта. Выкладаў у ліцэі і на настаўніцкіх курсах. Працаваў спецыялістам па грамадскіх сувязях у прамысловасці.

Выйшаўшы на пенсію, З. Станкевіч пачаў вывучаць гісторыю Слонімшчыны. Збірае матэрыялы да манаграфічнай працы пра Слонім міжваеннага перыяду. Артыкулы З. Станкевіча, прысвечаныя гісторыі Слоніма, друкаваліся ў “Слонімскай газеце”, з якой ён працягвае супрацоўнічаць. З’яўляецца адным з арганізатараў Універсітэта трэцяга тысячагоддзя ў Шчэціне, потым — у Слупску. Чытае лекцыі па сацыялогіі і філасофіі, закранае тэмы з гісторыі Беларусі.

Жыве ў Слупску (Польшча).

***Ірына Тамільчык***

## УЛАШЧЫК АЛЯКСАНДР

***Улашчык Аляксандр Мікалаевіч*** *(1.05.1947, Ленінград, цяпер Санкт-Пецярбург, Расія), фізік, беларускі грамадскі дзеяч.*

А. Улашчык паходзіць з беларускай сям’і. Яго бацька — вядомы беларускі гісторык, маці — фізіёлаг, доктар біялагічных навук. Пасля заканчэння ў 1965 г. сярэдняй школы № 151 г. Масквы. А. Улашчык вучыўся на фізічным факультэце

Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта імя М. В. Ламаносава (1965–1972). Цяпер працуе старшым інжынерам у Інстытуце высокіх тэмператур Расійскай акадэміі навук. З'яўляецца аўтарам шэрагу вынаходніцтваў у сваёй галіне, пацверджаных аўтарскімі пасведчаннямі.



У апошнія дзесяцігоддзі А. Улашчык актыўна ўдзельнічае ў навукова-асветніцкай і культурнай дзейнасці беларускай дыяспары ў Маскве. Удзельнік устаноўчага сходу, сябра першай Рады Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны. Шмат увагі надае захаванню і папулярызацыі навуковай спадчыны свайго бацькі. Апублікаваў у першых двух выпусках "Скарыніча" часткі яго "Хронікі". Спрыяў правядзенню і публікацыі матэрыялаў міжнароднай канферэнцыі ў Маскве, прысвечанай 90-годдзю М. Улашчыка (зб. "Русь – Літва – Беларусь...". М., 1997), падрыхтоўцы да друку "Твораў" М. Улашчыка ў выдавецтве "Беларускі кнігазбор". А. Улашчык перадаў у рукапісны аддзел Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі архіў свайго бацькі.

Быў дэлегатам I і II з'ездаў Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

***Аляксей Каўка** (Масква)*



## З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

### ДАСЛЕДЧЫКУ БЛОКА ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

Мікола Калінковіч — імя ў Лунінцы, на Лунінеччыне легендарнае. Адзін з першых даследчыкаў жыцця і творчасці Аляксандра Блока ў сувязі з Беларуссю (як важкі плён — кніга "Палескія дні Аляксандра Блока". Мн., 1985), руплівы краязнаўца, даследчык руска-беларускіх, туркменска-беларускіх сувязей, а яшчэ чэкіст, кандыдат юрыдычных навук. Сёлета споўнілася 10 гадоў з дня заўчаснай смерці таленавітага літаратара. У Лунінцы адбылася ўрачыстая паніхіда ў мясцовай царкве. Сябры М. Калінковіча па футбольных баталіях (пісьменнік у 1974 г. у складзе каманды "Прыпяць" удзельнічаў у чэмпіянаце БССР) правялі футбольны матч. На сустрэчы землякоў успамінамі, развагамі пра М. Калінковіча падзяліліся дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу краіны Васіль Таргун, рэдактары лунінецкай і мядзельскай раённых газет Таццяна Канапацкая і Павел Жукаў, іншыя землякі, сябры пісьменніка.

Выступалі і настаўнікі. Яны не аднойчы падкрэслівалі, што публікацыі ў перыёдыцы, кнігі М. Калінковіча — сур'ёзны матэрыял для вывучэння гісторыі Лунінецкага краю.

***Алесь Карлюкевіч***



### MAREK WIERZBICKI. POLACY I BIA£ORUSINI W ZABORZE SOWIECKIM: STOSUNKI POLSKO-BIA£ORUSKIE NA ZIEMIACH PÓ£NOCNO-WSCHODNICH II RZECZYPOSPOLITEJ POD OKUPACJ¥ SOWIECK¥ 1939–1941. WARSZAWA, 2000. 367 s.

Падзеям 1939–1941 гг. у беларускай і польскай гістарыяграфіі ў апошні час прысвечана шмат манаграфічных прац, кніг, артыкулаў. Тым не менш, у гэты шэраг ўвальецца, зойме сваё месца і знойдзе свайго чытача новая кніга па згаданнай тэматыцы польскага гісторыка М. Вяжбіцкага. Без сумнення, яго праца павінна выклікаць цікавасць у беларускіх гісторыкаў, таму дадзеная рэцэнзія не прэтэндуе на канчатковае абагульненне.

Цікавасць выклікае ўжо назва і тэма даследавання — “палякі і беларусы” менавіта разам, а не паасобку. У гэтым і заключаецца складаннасць, бо ў адрозненне ад многіх сваіх папярэднікаў, якія “аблягчалі” сабе працу разглядам ўзаемаадносін па тыпу “беларусы ў II Рэчы Паспалітай” або “палякі пад савецкай акупацыяй”, М. Вяжбіцкі разглядае разам лёсы двух народаў на надзвычай складаным для іх палітычным, ваенным, эканамічным, сацыяльным пераломе.

Даследчык выкарыстаў у сваёй працы шматлікія грунтоўныя матэрыялы з архіваў Польшчы, Расіі, Англіі, Беларусі. Аднак неабходна заўважыць, што па-за яго ўвагай чамусьці засталося шмат архіўных матэрыялаў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь (напрыклад, вопісы 5, 21 і інш. 4 фонда), якія ўтрымоўваюць надзвычай багаты, змястоўны і важны матэрыял для разумення падзей 1939–1941 гг.

У кнізе прыводзіцца шмат ўспамінаў непасрэдных сведкаў тых няпростых падзей, аб якіх распавядае аўтар. Аднак ў большасці гэта ўспаміны або тых, хто з сімпатыяй ставіўся да польскіх уладаў, або заможных гаспадароў. І тыя, і другія з недаверам і варожасцю ставіліся да савецкай улады і тых мерапрыемстваў, якія праводзіліся ад яе імя. Безумоўна, гэтыя ўспаміны хаця і ажыўляюць гістарычны фон, аднак нясуць адбітак асабістых перажыванняў, пачуццяў, крыўды і таму ў значнай ступені з’яўляюцца суб’ектыўнымі, да іх трэба ставіцца з пэўнай асцярогай і крытычнасцю.

Аўтар паслядоўна аналізуе польска-беларускія ўзаемаадносіны напярэдадні і пасля 17 верасня 1939 г., стаўленне як палякаў, так і беларусаў да паходу Чырвонай Арміі, стварэння органаў савецкай улады і тых мерапрыемстваў, якія ад яе імя рабіліся і г. д. Неабходна дадаць, што аўтар не пазбягае і не абыходзіць балючыя пытанні і спрабуе даць на іх аб’ектыўныя і абгрунтаваныя адказы. Напрыклад, ён справядліва падкрэслівае, што ў дачыненні да беларусаў, беларускай мовы, культуры назіраўся моцны ўціск з боку польскіх уладаў,

які, у прыватнасці, прывёў да скарачэння існуючых беларускамоўных школ з 346 ў 1918/19 гг. да 1 прыватнай і 22 агульных ў 1924/25 гг. (с. 25). Не адмаўляе ён і таго, што гэта з'яўлялася адным з элементаў палітыкі паланізацыі, якая праводзілася праз органы як цэнтральнай, так і мясцовай улады II Рэчы Паспалітай.

Дастаткова абгрунтавана аўтар паказвае, што прыход Чырвонай Арміі і пачатак стварэння органаў савецкай улады жадалі і віталі найперш бяднейшая частка серадняцкага сялянства, батракі, а таксама местачковае габрэйства. Першыя, тут трэба пагадзіцца з аўтарам, жадалі паляпшэння свайго дабрабыту, а галоўнае — жадалі атрымаць зямлю. Аднак М. Вяжбіцкі наўмысна або ненаўмысна не прыводзіць лічбавых дадзеных, хаця яны ўжо даўно вядомы, а менавіта, што75,6% беларускага сялянства мела зямельныя надзелы да 10 га, 16,4% ад 10 да 50 га і толькі 0,6% больш за 50 га. Калі ўлічыць, што пражытачны аграрны мінімум складаў ў Беларусі 8,74 га на душу, то заходнебеларуская вёска лічылася ў цэлым малазямельнай. Зразумела, што спадзяванні калі не ўсіх 75,6%, то значнай большасці гэтай групы беларускага насельніцтва былі звязаны з савецкай уладай і спадзяваннямі на атрыманне ад яе зямлі і вызвалення з прыгнёту паноў і асаднікаў.




Палякі і заможнае сялянства, увогуле ўласнікі маёмасці калі не варожа, то даволі насцярожана і стрымана ставіліся да тых падзей, сведкамі якіх яны станавіліся. Яны не беспадстаўна баяліся, што новая ўлада канфіскуе іх маёмасць, пазбавіць сродкаў існавання, рэпрэсуе, што на самой справе і адбылося. Аб гэтым распавядаецца ў раздзеле 6 “Дэпаланізацыя і калектывізацыя”.

Неабходна пагадзіцца з аўтарам і ў тым, што Заходняя Беларусь пасля 17 верасня 1939 г. апынулася ў “zaborze sowieckim” з усімі ўласцівымі яму рысамі. Дыктатарскі рэжым практычна цалкам перанёс метады і формы ўлады і кіравання на тэрыторыю гэтага краю. Насельніцтва з неразуменнем сутыкнулася з тым, што была забаронена дзейнасць усіх палітычных партый, акрамя камуністычнай, яшчэ большае неразуменне і страх выклікалі масавыя рэпрэсіі, якія закранулі ў большай ступені палякаў, аднак хапіла гэтага “шчасця” і беларусам. Пад моцны ўціск трапіў як каталіцкі касцёл, так і праваслаўны храм, а духавенства ды і простыя вернікі сталі разглядацца як “контррэвалюцыйны элемент”. Не палепшыўся і дабрабыт сялянства, якое прымусова заганялі ў калгасы і саўгасы.

Улічваючы гэтыя ды і іншыя фактары, М. Вяжбіцкі робіць вывад аб “эвалюцыі поглядаў і настрояў беларусаў” ад антыпольскіх да прапольскіх, прыводзячы сведчанні беларусаў аб тым, што “палякі рабілі нас 20 год палякамі і не зрабілі, а Саветы на працягу двух месяцаў зрабілі нас сапраўднымі палякамі” (с. 324). Аднак аўтар, сам адчуваючы недасканаласць і недастатковую абгрунтаванасць такіх высноў, заўважае, што гэтыя настроі, хутчэй, былі больш антысавецкімі, чым прапольскімі (с. 324). Да таго ж, ён таксама адзначае, што дакладна выявіць колькасць прыхільнікаў старога ладу (г. зн. польскага) вельмі складана ды і практычна немагчыма. Аднак большая частка беларускага насельніцтва па розных прычынах ўсё ж прыняла савецкую ўладу і назаўсёды звязала свой лёс з сацыялістычнай Беларуссю.

Разам з тым неабходна зазначыць, што праца М. Вяжбіцкага сведчыць аб стэрэатыпах, якія склаліся ў польскіх гісторыкаў пры даследаванні падзей 1939–1941 гг. Коратка засяродзім на іх ўвагу. Аднымі з асноўных і ў значнай ступені спалітызаваных дэфініцый з’яўляюцца паняцці “агрэсія”, “савецкая акупацыя” ў дачыненні да разглядаемых падзей, яны літаральна праходзяць праз ўсю кнігу. Не наша задача глыбока аналізаваць тыя міжнародныя падзеі і тую геапалітычную сітуацыю, якая прывяла да пачатку Другой сусветнай вайны. Аднак палітыка ўрада II Рэчы Паспалітай ў гэты час не надта спрыяла стварэнню сістэмы калектыўнай бяспекі супраць нацысцкай Германіі, што ўжо дакументальна абгрунтавана. “Савецкая акупацыя” і “агрэсія” суб’ектыўна або аб’ектыўна спрыяла ўз’яднанню народа, штучна падзеленага 18 сакавіка 1921 г. Рыжскім мірным дагаворам, аб’ектыўна вяла да кансалідацыі беларускай нацыі. Гэта бясспрэчны факт, які не патрабуе доказаў. Дарэчы, М. Вяжбіцкі амаль не закранае яго ў сваёй працы.

Яшчэ адным, на наш погляд, сур’ёзным недахопам кнігі з’яўляецца яе свядомая або несвядомая “незавершанасць”. Распавядаючы аб супольным лёсе беларусаў і палякаў ў 1939–1941 гг. і згадваючы аб гвалтах і грабяжах, нацыяналізацыі і калектывізацыі, дэпартацыях, рэпрэсіях і іншых злачынных дзеяннях савецкай улады, ад якіх цярпелі і палякі і беларусы, неабходна таксама адзначыць, што гэтая ўлада спрыяла таму, каб у Заходняй Беларусі была ўведзена нацыянальная сістэма адукацыі. У 1940–1941 гг. было створана пяць вышэйшых і 25 сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Значна пашырылася і ўзмацнілася сетка аховы здароўя, пачалася ліквідацыя непісьменнасці і беспрацоўя і г. д. Усё гэта было ў той складаны час. І аб гэтым таксама неабходна помніць і згадваць.

Будзем спадзявацца, што кніга польскага калегі М. Вяжбіцкага не застанецца па-за ўвагай беларускіх гісторыкаў, стане прадметам ўсебаковага вывучэння і аналізу.

***Анатоль Вялікі,***
*выкладчык Беларускага дзяржаўнага педуніверсітэта імя Максіма Танка*

## ПЕРШЫЯ ВОДГУКІ

Неяк так здарылася, што ўсе кнігі, узятыя на жнівеньскі тыдзень у вёску, хоць яны і былі выдадзены ў розных краінах, тым не меней так ці інакш "замыкаліся" на "ліцвінах" як на гістарычным найменні беларусаў, на Вялікім Княстве Літоўскім.

Пачну з "Кароны Вялікага Княства" Уладзіміра Бутрамеева, выдадзенай у Маскве ў 1999 г. Таму што пры ўсёй сваёй вонкавай несур'ёзнасці і нават блазенскасці яна найбольш сур'ёзная з усіх прачытаных ці прагледжаных. Бо спрабуе — няхай і ў парадаксальнай форме — адказаць на самыя істотныя для нас пытанні: хто такія беларусы, адкуль яны ўзяліся, чаго яны хочуць і што сталася з іх гісторыяй. Кніга нарадзілася з любові да Беларусі і з тугі па ёй (аўтар, які ўдала стартаваў у Мінску беларускімі творамі, цяпер жыве і працуе ў Маскве, штогодна выпускае ў "Олма-прэс" па некалькі грунтоўных энцыклапедычных даведнікаў, і, на жаль, яго таксама давядзецца лічыць "беларусам замежжа", уключаць у наш даведнік).




Кніга У. Бутрамеева нязвычная і па жанру, і па выкладанню, і па афармленню. Аўтар падкрэслена называе яе дысертацыяй, навуковым трактатам. На палях (скарынаўскіх "боцех") сапраўды выкладаецца гісторыя антычная, французская, беларуская, у канцы даецца мноства спасылак. Аднак гэта адначасова — і "энцыклапедычны" парадыйна-гумарыстычны раман прыгод беларускага шляхціца Андрэя Валкоўскага, які з-пад Мсціслава, з хутара Валкоўшчына (на выяве ён выглядае як міцкевічаўскае Завоссе), едзе ў XVII ст. у Парыж, каб знайсці карону Вялікага Княства Літоўскага і каранаваць ёю Антона Сапегу, пазашлюбнага сына Льва Сапегі, бо кароль Рэчы Паспалітай, якая стала для Беларусі не маці, а мачыхай, Уладзіслаў IV, не задавальняе герояў. Ім трэба вярнуць княству дзяржаўнасць ў ранейшым яе выглядзе, часоў Вітаўта, які і вырабіў карону для сябе. Потым яна была прысвоена Ягайлам, затым трапіла ў Заходнюю Еўропу. Вось Валкоўскі і шукае яе, нібы мушкецёры Дзюма падвескі каралевы (паводле аўтара, французскі раманіст, вядома ж, быў нашчадкам беларуса). Дарэчы (зробім тут невялікае адступленне), па збегу акалічнасцей, у тым жа Парыжы сёлета была выдадзена пра тое ж Вялікае Княства Літоўскае кніжка беларускага даследчыка-архівіста Ігара Лялькова "Нарысы палітычнай гісторыі Вялікага княства Літоўскага". Аўтар доўга працаваў у парыжскіх архівах,

выявіў там мноства матэрыялаў пра беларуска-французскія грамадска-палітычныя сувязі менавіта гэтага перыяду. Але слова "беларускі" гучыць у дадзеным кантэксце даволі ўмоўна. Бо і ў дакументах, і ў кнізе І. Лялькова "літоўскія" , "рускія" і "жмудскія" землі часцей за ўсё выступаюць як адзінае дзяржаўнае, палітычнае, эканамічнае, ваеннае, культурнае цэлае.

Аднак вернемся да кнігі У. Бутрамеева. Трэба выдзеліць яшчэ адну яе якасць — ёсць ў ёй многа роздуму, часта горкага, саркастычнага, пра сённяшнюю Беларусь, пра яе незапатрабаванасць (беларусы ўсё яшчэ сарамліва топчуцца ля парога сусветнай гісторыі), пра наш менталітэт (самае важнае, што мы ўсё ж засталіся "самі сабой"), пра літаратуру ("пісьменнікі ёсць, а пачытаць няма чаго"). З "маскоўскага далёка" аўтару многае бачыцца і маштабней, і выразней. І выказацца можна смялей.




Галоўнае ж, дзеля чаго пісалася кніга, — даказаць недасведчанаму чытачу, скептыку, няхай і ў парадыйна-парадаксальнай форме, што беларусы — такі ж паўнапраўны і паўнацэнны народ, як і іншыя народы, што ён таксама мае права на дзяржаўнасць, можа стаць "вялікай нацыяй" , бо ў яго даўнія гістарычныя карані. Аказваецца, Адам і Ева (Ясь і Яніна) былі выраблены з івянецкай гліны. Потым жылі ў райскім садзе пад родным аўтару Мсціславам. Ад іх старэйшага сына Радзіма пайшлі радзімічы, ад малодшых — крывічы і дрыгавічы, з якіх і склаліся беларусы. Пісьменнік раіць чытачу цвёрда запомніць першую гістарычную дату — 862 год, пад якім было засведчана існаванне Полацка і Полацкага княства — "першай дзяржавы продкаў беларусаў". А паколькі пад той жа датай былі названы і Кіеў, і Ноўгарад, то аўтар мае падставу сумнявацца: якія ж з украінцаў і рускіх старэйшыя браты беларусаў? Хутчэй, беларусы старэйшыя, бо Полацк знаходзіцца паміж Ноўгарадам і Кіевам. Да таго ж, беларусы з-пад Мсціслава прыдумалі дранікі са смятанай. Чаму дадумаліся да іх?А таму, што "жылі працай рук сваіх, са свайго агародчыка ды садочка, таму і не грабілі нікога амаль пяць тысяч год падрад". І па гэтай прычыне трэба, каб у іх вучыліся іншыя.

Наступная дата, якую аўтар лічыць прынцыпова важнай, — год 1253-ці, каранацыя ў Навагрудку Міндоўга. Для беларусаў Вялікае Княства стала іх другой сярэдневяковай дзяржавай, а "літоўскія" князі адыгралі ў яго стварэнні амаль такую важную ролю, як варагі ў Кіеўскай Русі.

Безумоўна, працытаванае сцвярджэнне, народжанае ў пыле палемікі з нігілістамі, выкліча супраціў літоўскіх гісторыкаў (не буду іх, у адрозненне

ад часткі беларускага друку, называць “летувіскімі”, бо як тое даказваў Лявон Луцкевіч, пра якога гаворка пойдзе далей, гэта надае слову адмоўнае адценне і пярэчыць нормам літоўскай мовы). Але ж… Але ж згадваюцца два “круглыя сталы” , праведзеныя на пачатку 90-х гг. Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў у Мінску і Гервятах на Гродзеншчыне і прысвечаныя Вялікаму Княству Літоўскаму. Тады, у Рымдзюнах, вядучыя літоўскія гісторыкі пагадзіліся, што Вялікае Княства — супольная гістарычна-культурная спадчына: калі, па словах польскага прафесара Юльюша Бардаха, на яго глядзець з Вільнюса, то гэта літоўска-беларуская, калі з Мінска — беларуска-літоўская дзяржава…

У. Бутрамееў глянуў з Масквы і, палемізуючы з тымі, хто ўкраў у нас гісторыю, асабліва шляхецкую, убачыў у ВКЛ толькі беларускую дзяржаву. Аглядальніку-рэцэнзенту усё ж бліжэй пазіцыя Ю. Бардаха.




Кніга, у якой беларусы таксама выступаюць пад найменнем літвінаў (“І ўпарты ты, як літвін, няхай нават беларускі”), толькі што прыйшла таксама з заходняга боку, з Польшчы. Сваю аповесць-эсэ “Горыч і соль мора: Гданьскія Смаргоні”, элегантна выдадзеную сёлета фірмай “Слова/вобраз прастора”, прыслаў нам Збігнеў Жакевіч, пра якога”Кантакты і дыялогі” ўжо пісалі. У дарчым надпісе аўтар называе сябе “Мядзведзем смаргонскім”, “маленькім хлопчыкам з Віленшчыны”, адсылаючы чытача да адмыслова ўклеенай фатаграфіі даваеннага часу. З іншай фатаграфіі пазірае кудысьці ў далячынь, мусіць, у “соннапрывідную” краіну свайго маленства, ужо сталы пісьменнік. Паглядае журботна, сумуючы, як і У. Бутрамееў, па сваіх каранях, да якіх няма, ці амаль няма, вяртання.

Кніжка таксама, як і погляд, атрымалася шчымліва-журботная. Яна яшчэ раз засведчыла, што пакіданне роднай зямлі — найвялікшая духоўная трагедыя. Вонкава дзейныя асобы Жакевіча — Цётачка, Міхал-Мядзведнік, Князейка, Ян без зямлі, Старац-прафесар, іх атачэнне — выглядаюць нармальнымі людзьмі, якія часта падарожнічаюць па Балтыйскім узбярэжжы, багемна бавяць час. Але ўсе яны ўнутрана раздвоеныя, адчуваюць “На канцы языка горыч і соль мора”. Горыч — адтуль, з Пуцятаўшчыны і Багатыроўшчыны, з Ашмяншчыны і Смаргоншчыны, ад Ваўкавыска і Маладзечна. Беларускія палякі ці польскія беларусы “з бароў выйшлі, дзяцельніцу і грачыху сеялі, у Смаргонях абаранкі елі”, а цяпер, называючы сябе літвінамі, пакутліва шукаюць каранёў. Марская ж соль — адсюль, ад Балтыйскага ўзбярэжжа. “Ашмяншчукам”, “смаргонцам” і “вільнючкам” прыйшлася даспадобы Кашубшчына. Яны, мастакі, паэты,

артысты, заглыбляюцца ў яе, але дзеля таго, “каб нешта зразумець з той зямлі, што была, нібы здароўе, і тое, што яна ўжо не такая: не там”.

Цётачка, “другое я” аўтара, па-філасофску адносіцца да свайго раздваення. Розумам яна разумее, што яе “душа непатрэбна блукае” там, дзе “літоўскія” бары і ройсты. Але ўсё роўна ёй баліць, чаму тыя, хто прыйшоў туды, на “Вялікае пагранічча”, калечаць зямлю, не заглыбляюцца ў яе гісторыю, чаму “зруселыя” сваякі Богускі ў Жодзішках урэшце спалілі яго самагонкай да таго, што таму сталі трызніцца белыя куры, чаму “даходзіць да самазнішчэння наш беларускі народзік”.




Сказана пра ўсё гэта ў кнізе таленавіта. І з болем.

У адрозненне ад Уладзіміра Бутрамеева і Збігнева Жакевіча Галіна Войцік і дзейная асоба яе кнігі Лявон Луцкевіч, хоць іх жыццё прайшло і праходзіць за межамі сённяшняй Беларусі, ніколі, здаецца, не адчувалі настальгіі ці раздваення ад таго, што жывуць у Вільнюсе-Вільні, ніколі не называлі сябе ліцвінамі, а толькі беларусамі. Ды і як жа інакш. Вільня, супольная сталіца ВКЛ, была для іх і беларускім горадам, а беларуская культура — арганічнай часткай поліэтнічнай, полілінгвістычнай спадчыны горада Гедыміна. І — ніякіх комплексаў з гэтай прычыны.

Кніжка Галіны Войцік “Лявон Луцкевіч” (Вільня, 1999) выйшла ў выдавецтве “Рунь” у даволі ўжо багатай серыі “Партрэты віленчукоў”. Ініцыятарам стварэння гэтай серыі была маці аўтаркі, незабыўная гаспадыня “Лясной хаткі” пад Вільнюсам пісьменніца Зоська Верас (Людвіка Сівіцкая-Войцік), якой прыслалі свае аўтабіяграфіі многія дзеячы культуры Віленскага краю. Пасля яе смерці справу прадоўжыў Лявон Луцкевіч. Ён падрыхтаваў да друку 50 “партрэтаў”. А калі не стала і Л. Луцкевіча, выданне дапрацоўвала яго жонка, якая і напісала апошні, 51 “партрэт”. Адсутнасць сродкаў прымусіла выдаваць нарысы асобнымі сшыткамі. Пры такой сітуацыі, падумалася, некаторыя біяграфіі віленчукоў можна было б папярэдне надрукаваць у “Кантактах і дыялогах”, а затым у даведніку “Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў памежных краінах”. Гэта не перашкодзіць будучаму выданню “Партрэтаў віленчукоў”.

Галіна Войцік (яе біяграфія змешчана ў гэтым нумары пад рубрыкай “Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў свеце”) падрабязна і аб’ектыўна апісвае жыццёвы шлях Лявона Луцкевіча, сына і пляменніка вядомых беларускіх дзеячаў Антона і Івана Луцкевічаў, стрыечнага брата Яніны Каханоўскай, якая і сёння шчыруе на беларускай ніве ў ЗША. Ад бацькі ён унаследаваў цікавасць да

беларускай літаратуры, музейнай справы (апісаў зборы Віленскага беларускага музея). Па заканчэнню Віленскай беларускай гімназіі і Віленскай тэхнічнай школы працаваў электратэхнікам, настаўнікам. Пасля вайны стаў ахвярай сталінскіх рэпрэсій. Вярнуўшыся з Калымы, электрыфікаваў калгасы, заводы, вадзіў экскурсіі па беларускіх мясцінах Вільнюса, якія потым былі ім апісаны ў кнізе “Вандроўкі па Вільні”, вёў беларускія перадачы на Літоўскім радыё, публікаваў артыкулы ў вільнюскім, мінскім і беластоцкім друку. Асабліва плённым для Л. Луцкевіча было апошняе дзесяцігоддзе. Праз усё сваё жыццё, робіць вывад аўтарка, ён “ні разу не здрадзіў ідэі вольнай, незалежнай Беларусі”.




Аднак прадоўжым шматаблічную тэму Літвы і ліцвінаў. Адначасова з разгледжанымі вышэй кнігамі ў рэдакцыю паступілі першыя нумары (кірыліцай і лацініцай) “Літваніі: Зборніка матэрыялаў аб Заходняй Беларусі” (Наваградак, 2000). Яго аўтары, Віктар Нагнібяда, Андрэй Юцкевіч і Сяргей Куліч, абвяшчаюць аб з’яўленні новага этнасу — ліцвінаў. “Заходняя Беларусь — заходняя частка Рэспублікі Беларусь з выразнымі этнакультурнымі і гістарычнымі асаблівасцямі. У 1939 годзе захоплена СССР. У цяперашні час пачынаецца працэс паступовай зьмены саманазваў. Заходняя Беларусь на Літванія і беларусы (заходнія) на літвіны, што адпавядае гістарычнай праўдзе і памкненням новае гэнерацыі заходніх беларусаў”. Тут жа змешчана карта Рэспублікі Беларусь, дзе яе тэрыторыя падкрэслена падзелена на Літванію і Белую Русь. Далей змешчаны “Міты беларускай апазіцыі”, “Альфабэт ліцьвінскі” (лацініцай) і “Маніфест ліцьвінаў” са сцвярджэннем, што “ліцьвінскі дух вышэй за ўсё” і што ліцвіны (у адрозненне ад русіфікаваных і “трасяначных”, г. зн. менш паўнацэнных беларусаў) павінны раўняцца на Польшчу, а польская мова павінна стаць іх другой мовай. Заканчваецца тэкст заклікам: “Ліцьвін! Знайдзі свае карані і не мітусіся сярод іншых нацый! Хадзем з намі. І хай дапаможа нам Бог!”

Некаторыя палажэнні “Літваніі” здаюцца цікавымі і пераканаўчымі. У Заходняй Беларусі сапраўды ёсць пэўныя адрозненні, абумоўленыя дваццацігадовым уваходжаннем яе ў ІІ Рэч Паспалітую — дзяржаву з іншым ладам і іншай пануючай мовай, чым у БССР. Ёсць і гістарычная рацыя: у адрозненне ад Русі і Жмудзі, гэта — цэнтральная частка ВКЛ, якая дала яму першае найменне. Вызначэнне “ліцвін” сапраўды добра дастасоўваецца да А. Міцкевіча і г. д.

Дарэчы, куды больш грунтоўна і пераканаўча праблематыку Літвы і ліцвінаў разгледзела ў гістарычным плане Святлана Куль-Сяльверстава ў манаграфіі

“Беларусь на мяжы культур і стагоддзяў: Фармаванне культуры Новага часу на беларускіх землях (другая палова XVIII ст. – 1820 гады)” (Мн., 2000). Яна паказала, што ўваходжанне беларускіх тэрыторый у склад розных дзяржаўных утварэнняў у 1772–1795 гг. (а не толькі ў “міжваеннае дваццацігоддзе”!) істотна паўплывала на тагачасны і пазнейшы менталітэт жыхароў, у тым ліку і на тую ж “літвінскасць”. Але паколькі кніга гродзенскай даследчыцы, дзе ўпершыню комплексна прааналізавана культура Асветніцтва ў Беларусі, патрабуе спецыяльнага, рэцэнзійнага разгляду, абмяжуюся тут толькі фіксаваннем яе выхаду.

У чытача ж “Літваніі” ўзнікае мноства істотных пытанняў і засцярог. Чаму аўтары абсалютызуюць граніцу 1921 г., якая вызначалася без удзелу саміх беларусаў? Чаму яны, калі зыходзілі з гістарычнай Літвы, пабаяліся ўключыць у Літванію не толькі “Мінск-Літоўскі”, але і Віленшчыну, але і Беласточчыну? Ці не з’яўляюцца асаблівасці мовы, якія абвяшчаюцца вызначальнымі, звычайнымі дыялектызмамі? І чаму аўтары не заўважаюць, што побач з беларуска-рускай “трасянкай” існуе беларуска-польская?

І, галоўнае, каму гэта патрэбна і да чаго прывядзе? “Белорусская деловая газета” ўжо слушна пісала (12 мая), што ліцвінскія памкненні пагражаюць “разрывам краіны”. Яны могуць прывесці да варожага супрацьстаяння, да падзелу не на беларусаў і ліцвінаў, а на “рускіх-праваслаўных” і “палякаў-католікаў”. Была ж ужо нядаўна шэляговічаўская спроба аддзяліць частку Беларусі — стварыць “яцвяжскую”, “гэдунскую” дзяржаву на Палессі… Ва ўмовах, калі яшчэ не закончылася фарміраванне беларускай нацыянальнай самасвядомасці, калі зноў усё часцей у мінскім і маскоўскім друку ставіцца пад сумненне само існаванне беларускай нацыі (дарэчы, такія публікацыі і правакуюць выступленні ліцвінаў), супрацьпастаўленне часткі цэламу смерці падобна.

Яшчэ адна спроба такога супрацьпастаўлення — выданне ў Паазер’і газеты “Крэсы” і дадатку да яе “Краязнаўца Паазер’я”. Хочацца спытаць: крэсы, ускраіны — чаго? ІІ Рэчы Паспалітай? Дык яна ж даўно не існуе. Тады — пагранічча? Але ж не з Польшчай, а з Літвой і Латвіяй… Пашырэнне на сучасны стан слоў, якія згубілі ці змянілі свой гістарычны сэнс, можа весці да дэзарыентацыі і жыхароў, якія і так не дужа ўсведамляюць, хто яны ёсць.

А карона? Шукаць яе — як сваю тоеснасць — трэба! Арыентавацца на ВКЛ — варта. Але толькі як на супольную беларуска-літоўскую дзяржаву. Карона, гістарычная рацыя быцця, вельмі прыдалася б беларускай папялушцы ў яе пераўтварэнні ў каралеўну. Пошукі беларускай тоеснасці працягваюцца. І не толькі ў краіне, але і за яе рубяжамі. Агляд хочацца скончыць словамі Віталя Воранава, жыхара заходняй часткі Польшчы. Свой ліст “Пра сябе і свой народ” у беластоцка-крынкаўскі “Czasopis” ён заканчвае словамі: “Teraz wiem, że jestem Białorusinem. Jestem dumny, że jestem Białorusinem. Dumny jestem ze swej ojczyzny, narodu, historii, literatury. Дзякуй табе, Божа, што я нарадзіўся на гэтай зямлі”.

***А. М.***

# НАДРУКАВАНА ПРА КАНТАКТЫ Ў БЕЛАРУСІ І Ў СВЕЦЕ

У падрыхтоўцы бібліяграфіі ўдзельнічалі:

***Моніка Банкоўскі*** *(Швейцарыя),* ***Алесь Баркоўскі*** *(Якуція),* ***Алеся Белавусава, Герман Бідэр*** *(Аўстрыя),* ***Валянціна Грышкевіч, Раіса Жук-Грышкевіч*** *(Канада),* ***Андраш Золтан*** *(Венгрыя),* ***Мікалай Ількевіч*** *(Расія),* ***Таццяна Караткевіч-Саганок*** *(Эстонія),* ***Святлана Кошур, Цімох Ліякумовіч*** *(ЗША),* ***Адам Мальдзіс, Таццяна Махнач, Таццяна Пятровіч, Віталь Скалабан, Вячка Целеш*** *(Латвія),* ***Міхал Швэдзюк*** *(Вялікабрытанія),* ***Сакрат Яновіч*** *(Польшча).*

Перавага пры складанні бібліяграфіі аддаецца кніжным і часопісным публікацыям, якія паступаюць у ГА "МАБ" і Цэнтр імя Ф. Скарыны. З іншымі публікацыямі пра ўзаемасувязі, змешчанымі ў перыёдыцы, можна пазнаёміцца ў Банку інфармацыі таго ж Цэнтра.

Пры складанні бібліяграфіі найперш улічваюцца тыя перыядычныя выданні, рэдакцыі якіх прысылаюць іх у Банк інфармацыі.

## АЎСТРАЛІЯ

**Kovalevski Viktor** = Кавалеўскі Віктар. Belarusians in Adelaide = Беларусы ў Адэлаідзе: Кн. першая. Adelaide, 2000.

## БЕЛАРУСЬ • Агульныя пытанні

**Андрас І. А.** Фарміраванне прадпрымальніцкай актыўнасці ў Заходняй Еўропе і Беларусі // Вес. НАН Беларусі: Сер. гуманіт. навук. 2000. № 2. С. 5–10.

**Барыс Сымон.** Падручнікі па гісторыі — за паразуменне паміж народамі: [Пра Міжнародную канферэнцыю "Штодзённая гісторыя" і правы чалавека. Як могуць падручнікі па гісторыі і грамадазнаўству дапамагчы вучням у распазнаванні ўласных інтарэсаў"] // Бел. гіст. часоп. 2000. № 2. С. 93–94.

**Басава Ганна.** Лінгвакраязнаўчы падыход у прэзентацыі беларускай фразеалогіі замежным студэнтам // Род. слова. 2000. № 5. С. 34–35.

**Волкава Таццяна.** Народы свету і цывілізацыі ў XIX – пачатку XX стст. // Бел. гіст. часоп. 2000. № 2. С. 68–72.

**Гайдаров Александр.** Международное гуманитарное право и внутренние вооруженные конфликты (дополнительный протокол II 1977 г.) // Юстыцыя Беларусі. 2000. № 2. С. 66–76.

**Гардзіенка Наталя.** Адукацыя за мяжой: Злучаныя Штаты Амэрыкі, Канада, Ангельшчына, Францыя // Студэнцкая думка. 2000. № 3. С. 3–7.

**Грыбоўскі Юры.** Як і дзе ваявалі беларусы на заходніх франтах Другой сусветнай вайны? // Наша слова. 2000. 28 чэрв.

**Довнар Наталья.** К вопросу о критериях ограничений свободы слова в международном праве и законодательстве Республики Беларусь // Бел. журнал междунар. права и междунар. отношений. 1999. № 4. С. 3–10.

**Жалкоўскі Алесь.** На покліч роднай старонкі: З VI сустрэчы лідчан замежжа // Голас Радзімы. 2000. 14 чэрв.

**Іванова Людміла.** З гісторыі рэфармацыйнай кнігі на Беларусі XVI ст. // Музы Нясвіжа: Матэрыялы навуковай канферэнцыі. Б. м., 2000. С. 106–110.

**Іванова Ю. І.** Працоўныя адносіны ў міжнародным прыватным праве // Вес. НАН Беларусі: Сер. гуманіт. навук. 2000. № 2. С. 32–36.

**Іпатава Вольга.** Сумоўе душ — сумоўе галасоў: Літаратурны экспрэс Еўропа-2000 // Полымя. 2000. № 5. С. 122–123.

**Кабржыцкая Таццяна.** Адам Міцкевіч ва ўспрыманні Максіма Рыльскага // Янка Купала і Адам Міцкевіч; З Купалаўскіх мясцін: Зб. Мн., 2000. С. 45–49.

**Кабржыцкая Таццяна.** Мар'ян Здзяхоўскі і Украіна // Янка Купала і Адам Міцкевіч; З Купалаўскіх мясцін: Зб. Мн., 2000. С. 137–141.

**Калинина Э. А.** История государства и права древнего мира (Греция, Рим): [Навуч. дапаможнік для студэнтаў ВНУ]. Минск, 1999.

**Калугин Виталий.** Международный механизм имплементации международного гуманитарного права // Бел. журнал междунар. права и междунар. отношений. 1999. № 1. С. 29–36.

**Канёк Ірма.** Наша кіно на абшарах Еўропы // Літ. і мастацтва. 2000. 9 чэрв.

**Капранава В. А.** Рэформа педагагічнай адукацыі [за мяжой] // Нар. асвета. 2000. № 4. С. 155–159.

**Капранова В. А.** Школьные реформы в странах Восточной Европы // Адукацыя і выхаванне. 2000. № 5. С. 77–78.

**Кашлеў С. С.** Агульначалавечыя каштоўнасці як аснова зместу педагагічнага працэсу школы: Метадычная распрацоўка педагагічнага працэсу // Нар. асвета. 2000. № 5. С. 33–38.

**Кірысь В. Н.** Чытанне на ўступным экзамене ў ВНУ па замежнай мове // Нар. асвета. 2000. № 5. С. 147–155.

**Конан Уладзімір.** Рэнесансная мастацкая культура Нясвіжа: XVI–XVII стст. // Музы Нясвіжа: Матэрыялы навуковай канферэнцыі. Б. м., 2000. С. 15–21.

**Куварына Таццяна.** Беларусь — краіна шматнацыянальная: [Пра III Усебеларускі фестываль нацыянальных культур] // Голас Радзімы. 2000. 28 чэрв.

**Лазука Б. А.** Паэтыка беларускага барока // Музы Нясвіжа: Матэрыялы навуковай канферэнцыі. Б. м., 2000. С. 1–8.

**Лебядзевіч Дз. М.** Антычная міфалогія ў паэтычнай спадчыне Максіма Багдановіча // Бел. мова і літаратура. 2000. № 2. С. 103–114.

**Лепешко Борис.** Кристаллизация национальной идеи [беларусаў у супастаўленні з іншымі народамі] // Бел. думка. 2000. № 4. С. 18–26.

**Лозка Алесь.** Вялікі дзень: Пасха ў беларусаў і іншых народаў Еўропы // Беларусь. 2000. № 4. С. 48–49.

**Лопато-Загорский Владимир.** Этот близкий нам Ближний Восток // Бел. думка. 2000. № 6. С. 22–28.

**Лоўгач Віктар.** Беларуская дыяспара як фактар уваходжання краіны ў сусветнае супольніцтва // Голас Радзімы. 2000. 21 чэрв.

**Лыч Леанід.** “Бацькаўшчына” напярэдадні 10-годдзя // Голас Радзімы. 2000. 17, 24 мая.

**Міцкевіч Даніла.** Першы з’езд беларусаў свету: Інт. з удзельнікамі / Зап. Міхася Стэльмака // Міцкевіч Даніла. Любіць і помніць: Успамінае сын Якуба Коласа. Мн., 2000. С. 190–191.

**Нікіценкаў М.** Ганза — старажытны “агульны рынак” Еўропы // Altanka=Альтанка (Баранавічы). 2000. № 3–4. С. 3–6.

**Павлова Людмила.** Международное право в правовой системе государства // Бел. журнал междунар. права и междунар. отношений. 1999. № 3. С. 3–9.

**Панізьнік Сяргей.** “Еўропа там, дзе мы…” // Голас Радзімы. 2000. 7 чэрв.

**Паўлава Таццяна.** Выточі дыпламатыі БНР // Бел. журнал междунар. права и междунар. отношений. 1999. № 3. С. 51–54.

**Попков Андрей.** Исполнение международных арбитражных решений // Юстыцыя Беларусі. 2000. № 2. С. 52–57.

**Рассадин С. Е.** Племена и народы “заскифского” Северо-Востока: Автореф. дисс. … докт. ист. наук. Минск, 1999.

**Сандо Ив.** Полвека Женевским конвенциям // Бел. журнал междунар. права и междунар. отношений. 2000. № 1. С. 5–14.

**Сарашевский Юрий.** Роль Лиги Наций в формировании права беженцев // Бел. журнал междунар. права и междунар. отношений. 2000. № 1. С. 33–36.

**Снапкоўскі Уладзімір.** Аб навуковых даследаваннях аддзела нацыянальных і міжнародных адносін Беларусі Інстытута гісторыі НАН Беларусі (1960–1990-я гг.) // Бел. журнал междунар. права и междунар. отношений. 2000. № 1. С. 72–75.

**48-й** съезд Евро-Азиатской Федерации Союзов ЕХБ: Хроника / Подг. Игоря Попова // Крыніца жыцця (Кобрын). 2000. № 4. С. 21–23.

**Старавойтава Н. П.** Стылістычныя асаблівасці перакладу “Аповесці пра Трышчана” // Вес. НАН Беларусі: Сер. гуманіт. навук. 2000. № 2. С. 104–107.

**Стрэнкоўскі С. П.** Гарадское самакіраванне ў вялікакняжацкіх уладаннях заходняй часткі Вялікага княства Літоўскага ў XV–XVIII стагоддзях: Аўтарэф. дыс. … канд. гіст. навук. Мн., 1999.

**Сухая В. А.** Кантамінацыя ва ўсходнеславянскіх чарадзейных казках: Аўтарэф. дыс. … докт. філалаг. навук. Мн., 1999.

**Суша Т. Н.** Лингвистические основы лексикографиии: Учебное пособие для студентов вузов, обучающихся по специальности “Соврем. иностр. яз.”. Минск, 1999.

**Турович А. К.** Диалектика магического и эстетического в славянских заговорах // Восточнославянский фольклор: поиски новых подходов. Молодечно, 2000. С. 15–24.

**Чаропка Вітаўт.** Удзел войска ВКЛ у Грунвальдскай бітве // Бел. гіст. часоп. 2000. № 2. С. 14–22.

**Черота А. И.** Образы волка и волколака в славянском фольклоре // Восточнославянский фольклор: поиски новых подходов. Молодечно, 2000. С. 82–89.

**Числов Эрик.** Распространение знаний о международном гуманитарном праве // Бел. журнал междунар. права и междунар. отношений. 2000. № 1. С. 24–27.

**Федотов Леонид.** Внешние связи белорусской православной церкви: краткий обзор // Бел. журнал междунар. права и междунар. отношений. 1999. № 3. С. 55–59.

**Хаміцэвіч Яўген, Казлова Ірына.** Вялікія геаграфічныя адкрыцці і іх значэнне для народаў свету:

